ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 4 (2583)
28 студзеня 1972 г.
ПЯТНІЦА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## *У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КПСС*

# АБ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЙ КРЫТЫЦЫ

ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». У ёй адзначаецца, што партыйныя камітэты, установы культуры, творчыя саюзы, органы друку накіроўваюць актыўныя намаганні на рэалізацыю ўказанняў XXIV з'езда КПСС аб павышэнні ўзроўню літаратурна-мастацкай крытыкі. Задачы крытыкі абмеркаваны на з'ездах, пленумах, сходах мастацкай інтэлігенцыі. Больш пачало публікавацца змястоўных артыкулаў, прасякнутых клопатамі аб далейшым развіцці мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

Разам з тым у пастанове ЦК КПСС указваецца, што стан крытыкі пакуль не адпавядае ў поўнай меры патрабаванням, якія вызначаюцца ўзрастаючай роллю мастацкай культуры ў камуністычным будаўніцтве. Недастаткова глыбока аналізуюцца працэсы развіцця савецкай літаратуры і мастацтва, узаемаўзбагачэння і збліжэння культур сацыялістычных нацый. Многія артыкулы, агляды, рэцэнзіі маюць павярхоўны характар, вызначаюцца невысокім філасофскім і эстэтычным узроўнем, сведчаць аб няўменні суадносіць з'явы мастацтва з жыццём. Да гэтага часу ў крытыцы праяўляюцца прымірэнцкія адносіны да ідэйнага і мастацкага браку, суб'ектывізм, прыяцельскія і групавыя прыхільнасці. Часам публікуюцца і такія матэрыялы, у якіх даецца няправільны малюнак гісторыі савецкага і дарэвалюцыйнага мастацтва, прадузята ацэньваюцца асобныя мастакі і творы. Крытыка ўсё яшчэ недастаткова актыўная і паслядоўная ва ўсталяванні рэвалюцыйных, гуманістычных ідэалаў мастацтва сацыялістычнага рэалізму, у выкрыцці рэакцыйнай сутнасці буржуазнай «масавай культуры» і дэкадэнцкіх плыняў, у барацьбе з рознага роду немарксісцкімі поглядамі на літаратуру і мастацтва, рэвізіяністкімі эстэтычнымі канцэпцыямі.

Партыйныя камітэты, міністэрствы і ведамствы, творчыя саюзы яшчэ не забяспечваюць належнага кантролю за крытыка-бібліяграфічнай дзейнасцю падведамных органаў друку, выдавецтваў, адпаведных рэдакцый тэлебачання і радыё, слаба выкарыстоўваюць сродкі масавай інфармацыі для мэтанакіраванага ідэйна-эстэтычнага выхавання працоўных, для прапаганды лепшых дасягненняў шматнацыянальнага савецкага мастацтва.

Рэдакцыі шэрагу газет і часопісаў не заўсёды патрабавальныя да ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню крытычных артыкулаў. Істотныя недахопы ёсць у практыцы рэцэнзавання. Публікуемыя рэцэнзіі нярэдка маюць аднабаковы характар, змяшчаюць неабгрунтаваныя кампліменты, зводзяцца да беглага пераказу зместу твора, не даюць уяўлення аб яго рэальным значэнні і каштоўнасці.

Многія кнігі, спектаклі, фільмы, мастацкія выстаўкі, музычныя творы, канцэртныя праграмы наогул застаюцца па-за полем зроку крытыкі. Слаба прыцягваюцца да работы ў друку вядучыя спецыялісты ў галіне марксісцка-ленінскай эстэтыкі, тэорыі і гісторыі мастацтва, майстры савецкай культуры; рэдакцыі не ўдзяляюць дастатковай увагі жанравай разнастайнасці і даходлівасці крытычных матэрыялаў.

У пастанове ЦК КПСС указваецца, што кіруючыя органы творчых саюзаў рэдка арганізуюць калектыўныя абмеркаванні наспеўшых праблем мастацкай творчасці, марудна перабудоўваюць работу камісій і саветаў па крытыцы. Не праяўляюцца штодзённыя клопаты аб ідэйным выхаванні і прафесійнай падрыхтоўцы крытыкаў, аб стварэнні ў асяроддзі работнікаў літаратуры і мастацтва абстаноўкі высокай патрабавальнасці, правільных адносін да выступленняў крытыкі.

Недахопы літаратурна-мастацкай крытыкі, адзначаецца ў пастанове, у многім абумоўлены недахопам кваліфікаваных кадраў. Між тым ва універсітэтах і гуманітарных вну не створаны неабходныя ўмовы для спецыялізацыі студэнтаў і аспірантаў у галіне крытыкі, нездавальняюча пастаўлена гэта работа і ў навучальных установах літаратуры і мастацтва. На развіцці крытыкі адмоўна адбіваюцца сур'ёзныя недахопы ў пастаноўцы навукова-даследчай работы, ведамасная раз'яднанасць навуковых і творчых кадраў, адсутнасць належнай каардынацыі ў дзейнасці навуковых устаноў.

Цэнтральны Камітэт КПСС звярнуў увагу ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў КПСС, міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў, кіраўнікоў органаў друку, выдавецтваў, тэлебачання і радыё на неабходнасць павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню літаратурна-мастацкай крытыкі, яе актыўнасці і прынцыповасці ў правядзенні лініі партыі ў галіне мастацкай творчасці.

Абавязак крытыкі,— падкрэсліваецца ў пастанове,— глыбока аналізаваць з'явы, тэндэнцыі і заканамернасці сучаснага мастацкага працэсу, усямерна садзейнічаць умацаванню ленінскіх прынцыпаў партыйнасці і народнасці, змагацца за высокі ідэйна-эстэтычны ўзровень савецкага мастацтва, паслядоўна выступаць супраць буржуазнай ідэалогіі. Літаратурна-мастацкая крытыка заклікана садзейнічаць расшырэнню ідэйнага кругагляду мастака і ўдасканаленню яго майстэрства. Развіваючы традыцыі марксісцка-ленінскай эстэтыкі, савецкая літаратурна-мастацкая крытыка павінна спалучаць дакладнасць ідэйных ацэнак, глыбіню сацыяльнага аналізу з эстэтычнай патрабавальнасцю, клапатлівымі адносінамі да таленту, да плённых творчых пошукаў.

Адпаведным міністэрствам і ведамствам, творчым саюзам прапанавана распрацаваць і ажыццявіць меры па паляпшэнні крытыка-бібліяграфічнай дзейнасці падведамных часопісаў, газет, выдавецтваў, рэдакцый тэлебачання і радыё; умацаваць рэдкалегіі, выдавецкія саветы, рэдакцыі кваліфікаванымі, палітычна сталымі кадрамі, забяспечыць стварэнне няштатнага актыву з ліку аўтарытэтных крытыкаў; прадугледзець формы заахвочвання лепшых работ у галіне літаратурна-мастацкай крытыкі, літаратуразнаўства і мастацтвазнаўства.

ЦК КПСС рэкамендаваў творчым саюзам штодзённа клапаціцца аб ідэйна-тэарэтычным і прафесійным узроўні літаратурна-мастацкай крытыкі, павышаць яе ролю ў вырашэнні задач камуністычнага будаўніцтва, у фарміраванні грамадскай думкі ў барацьбе з чужымі поглядамі і канцэпцыямі. Творчыя саюзы, гаворыцца ў пастанове, павінны быць ініцыятарамі і арганізатарамі абмеркавання актуальных пытанняў мастацкай творчасці, асобных твораў літаратуры і мастацтва, уносіць свой уклад у распрацоўку тэарэтычных праблем сацыялістычнага рэалізму. Трэба палепшыць дзейнасць камісій і саветаў па крытыцы.

Акадэміі навук СССР, міністэрствам, ведамствам прапанавана накіраваць увагу падведамных ім інстытутаў на глыбокае вывучэнне праблем тэорыі і метадалогіі літаратурна-мастацкай крытыкі, актывізаваць намаганні вучоных у даследаванні сучаснага мастацкага працэсу, узаемадзеяння культур краін сацыялістычнай садружнасці. У пастанове ЦК КПСС даюцца рэкамендацыі па паляпшэнні падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне гісторыі і тэорыі літаратуры, кіно, тэатра, музыкі, выяўленчага мастацтва. Маецца на ўвазе прадугледзець у навучальных планах універсітэтаў, педагагічных інстытутаў і спецыяльных вышэйшых навучальных устаноў неабходныя магчымасці для факультатыўнай спецыялізацыі студэнтаў і аспірантаў па праблемах літаратурна-мастацкай крытыкі. Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС даручана палепшыць і расшырыць падрыхтоўку на базе акадэміі кваліфікаваных спецыялістаў у галіне тэорыі літаратуры і мастацтва і літаратурна-мастацкай крытыкі.

З мэтай далейшага паляпшэння крытыка-бібліяграфічнай справы і прапаганды мастацкай літаратуры прызнана мэтазгодным стварыць масавы літаратурна-крытычны і бібліяграфічны часопіс.

Важнай задачай партыйных камітэтаў, гаворыцца ў пастанове ЦК КПСС, з'яўляецца ўзмацненне дапамогі міністэрствам і ведамствам, творчым саюзам, органам друку, тэлебачання і радыё ў справе выхавання, падбору і расстаноўкі кадраў крытыкаў, умацаванне сувязі крытыкаў з практыкай камуністычнага будаўніцтва, удасканальванне іх марксісцка-ленінскай тэарэтычнай падрыхтоўкі.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# СЭРЦАМ СЛУХАЦЬ ЧАС

**КАНКРЭТНЫЯ** творчыя планы ў мастакоў Савецкай Беларусі на 1972 год—вялікія і адказныя. У хуткім часе ў Маскве яны будуць трымаць творчую справаздачу перад усім савецкім народам разам са сваімі калегамі з Украіны і Малдавіі. Гэтая вялікая занальная выстаўка будзе сур'ёзным творчым экзаменам беларускага атрада савецкага выяўленчага мастацтва, які ўпэўнена набірае новыя сілы ў высакародным служэнні радзіме, народу, партыі.

У гэты год паўвекавога юбілею Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік адбудзецца таксама рэспубліканская выстаўка творчасці маладых мастакоў, якая пакажа рост маладога атраду выяўленчага мастацтва рэспублікі.

«Беларусь сацыялістычная» — так будзе называцца вялікая рэспубліканская мастацкая выстаўка, якая разгорнецца ў Мінску пад канец гэтага года. Аб творчай праграме яе красамоўна сведчыць сама назва.

Рыхтуючыся да гэтых выставак, мастакі нашай рэспублікі ясна ўсведамляюць адказнасць задач, што стаяць перад імі,—у высока ідэйных, дасканалых па майстэрстве творах палымяна і пераканана несці ў народ высокія маральныя і грамадзянскія ідэалы.

Зусім зразумела, якая вялікая адказнасць кладзецца сёння на нашы выставачныя камітэты і на кожнага мастака, што будзе прапанаваць творы на іх разгляд.

**24** З'ЕЗД КПСС акрэсліў праграму дзейнасці творчых саюзаў. У дакументах з'езда падкрэслена, што творчыя саюзы заклікаНы штодзённа праяўляць увагу да творчых праблем развіцця мастацтва, павышэння ідэйна-тэарэтычнага ўзроўню і прафесіянальнага майстэрства членаў саюзаў, выхавання высокай адказнасці ў дзеячоў мастацтва за сваю працу перад грамадствам.

Духам гэтых патрабаванняў прасякнута пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы», якая, зразумела ж, самым непасрэдным чынам датычыць і крытычнага цэху ў выяўленчым мастацтве.

Вернасць прынцыпам партыйнасці і народнасці савецкага мастацтва, мастацтва сацыялістычнага рэалізму, уважлівая, чулая падтрымка сапраўды наватарскага, сапраўды таленавітага—вось на якой аснове пераадольваюцца ў творчасці праявы шэрасці, эпігонства, руціны і вядзецца непрымірымая барацьба з чужымі рэалістычнаму мастацтву поглядамі і тэндэнцыямі.

Адказнасць савецкага мастака перад эпохай, у якую ён жыве, вызначаецца праграмнай задачай Камуністычнай партыі—выхоўваць новага, усебакова развітага, духоўна багатага, маральна чыстага і фізічна дасканалага чалавека. Каб быць на ўзроўні такой высакароднай задачы, каб мець магчымасць яе выканаць, савецкаму мастаку патрэбна высокая ідэйная загартоўка, здольнасць чула слухаць сэрцам наш час, актыўна розумам і сэрцам успрымаць вядучыя тэндэнцыі грамадскага развіцця ў нашай краіне і ва ўсім свеце.

Не варта забываць, што сацыяльная інфантыльнасць больш за ўсё спрыяе ўплыву суб'ектывісцкай эстэтыкі, якая фальсіфіцыруе або, па крайняй меры, моцна абмяжоўвае адказнасць мастака перад мастацтвам і грамадствам.

**ЖЫВАЯ ПРАКТЫКА** нашага выяўленчага мастацтва ставіць нямала творчых праблем, якія патрабуюць свайго неадкладнага асэнсавання, правільнага тэарэтычнага вырашэння, каб на аснове яго выпрацоўваліся пэўныя практычныя рэкамендацыі.

І сёння абсалютна ясна, што для таго, каб асэнсоўваць практычны вопыт выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі, неабходна сапраўдная творчая актыўнасць не адных толькі крытыкаў і мастацтвазнаўцаў, але і саміх мастакоў.

Сучасная савецкая эстэтыка, якая няспынна развіваецца і ўдасканальваецца, мае немалыя набыткі. На аснове марксісцка-ленінскага дыялектычнага метаду даследуюцца складанейшыя праблемы творчага працэсу. Робяцца вывады, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да штодзённай творчай практыкі.

Так, напрыклад, асэнсоўваючы працэс далучэння шырокіх народных мас да высокай мастацкай культуры, савецкая эстэтыка падкрэслівае, што гэты працэс не звязаны ў прынцыпе з якімі-небудзь эстэтычнымі стратамі ў развіцці мастацтва, тым больш з наўмысным або вымушаным спрашчэннем яго зместу і формы. Іменна ў працэсе свайго развіцця, а не часовага адступлення ад актыўных пошукаў яно, мастацтва, ідзе, як падкрэсліваў У. І. Ленін, найглыбейшымі каранямі ў самую тоўшчу шырокіх працоўных мас, робіцца зразумелым для гэтых мас і любімым імі.

І яшчэ прыклад. Асэнсоўваючы багацце і разнастайнасць сацыялістычнага рэалізму, савецкая эстэтыка прыходзіць да вываду, што нельга, не рызыкуючы ўпасці ў аднабаковасць, зводзіць мастацкі рэалізм ні да суровых рэмбрандаўскіх фарбаў, ні да рафаэлеўскіх спосабаў пераўтварэння, паэтычнасць якіх агульнапрызнана. Прырода мастацкага рэалізму невымерна шырэй, багацей, шматгранней творчых магчымасцей любога вялікага мастака. Сапраўдны мастак заўсёды арыгінальны ў практычным прымяненні творчага метаду. Але гэта зусім не азначае, быццам існуе столькі ж метадаў, колькі мастакоў, якія метад прымянялі.

Наколькі важна глыбока разабрацца ў гэтых і многіх іншых пытаннях, сведчыць, у прыватнасці, сучасная пропаведзь рэалізму без берагоў некаторымі эстэтыкамі, якія адышлі ад сацыялізма. У гэтай пропаведзі крыецца, па сутнасці, адмоўнае стаўленне да праграмнасці, партыйнасці, ідэйна-эстэтычнай акрэсленасці сацыялістычнага рэалізму. Гэтая пропаведзь пэўным чынам суадносіцца з апалогіяй мадэрнізму, з мадэрнісцкімі прэтэнзіямі на абсалютную свабоду творчасці—адваротным бокам анархічнай вольнасці, суб'ектывісцкага самавольства.

**ТОЛЬКІ ЎСЕБАКОВА** ўзброены глыбокім разуменнем марксісцка-ленінскай эстэтыкі мастак здольны правільна ставіць перад сабою і правільна вырашаць складаныя праблемы наватарскага пошуку. Толькі на трывалай аснове марксісцка-ленінскай эстэтыкі здольны ён актыўна супрацьстаяць рэцыдывам як фармалізму, так і натуралізму. І не толькі супрацьстаяць, але і пераходзіць у актыўнае наступленне.

І ўсё гэта—не адцягненыя тэарэтычныя высновы. Усё гэта звязана трывала з нашай бягучай практыкай.

Заўважаючы бясспрэчныя, відавочныя поспехі выяўленчага мастацтва нашай рэспублікі, яго актыўны выхад на ўсесаюзную (і не толькі на ўсесаюзную!) арэну, мы не можам у той жа час не быць самакрытычнымі і не трывожыцца з прычыны пэўных недахопаў у яго развіцці.

Перад намі многа складаных праблем, звязаных з далейшым развіццём станковай карціны, з далейшым развіццём сінтэзу мастацтваў, з шэрагам пытанняў, якія патрабуюць свайго тэарэтычнага і практычнага вырашэння ў манументальным мастацтве. Ды ці толькі гэта! Хіба можа не трывожыць факт, што, бывае, і ў нашай творчай моладзі, якая выходзіць на шлях самастойнай творчасці, сустракаецца той самы сацыяльны інфантылізм—іх творам нярэдка нестае сацыяльна значнага зараду.

У асэнсаванні вопыту нашага выяўленчага мастацтва ў нас не так ужо багата дасягненняў. Неабходна знайсці формы каардынацыі дзейнасці па крытычным і мастацтвазнаўчым асэнсаванні створанага нашымі мастакамі паміж адпаведным інстытутам Акадэміі навук БССР, секцыяй крытыкі Саюза мастакоў БССР, нашымі друкаванымі органамі, якія ў той ці іншай меры займаюцца асвятленнем праблем беларускага савецкага выяўленчага мастацтва. Неабходна таксама — паўторым!—арганізаваць справу так, каб у абмеркаванні надзённых праблем мастацтва прымалі актыўны ўдзел яго творцы. Каб на аснове творчага абмену думкамі рабіліся практычна карысныя высновы.

Можна не сумнявацца, што мастакі Савецкай Беларусі актывізуюцца творча ў год паўвекавога юбілею СССР і адзначаць яго новымі здабыткамі. Хочацца толькі, каб гэтых здабыткаў было як мага больш.

---

**РАСКАЗ** пра сустрэчу творчых работнікаў сталіцы з першым сакратаром Мінскага гаркома КПБ В. Шарапавым і старшынёй выканкома Мінскага гарадскога Савета М. Кавалёвым мы пачнём з каментарыя да нашага фотаздымка. Хоць на планшэце, які тут паказаны, і ёсць дэталь сённяшняга Мінска, усё роўна здагадацца, дзе гэта, вельмі цяжка. Ва ўсякім разе ніхто з прысутных не падазраваў, што на планшэце — заўтрашняя Няміга.

Яшчэ жывыя ў памяці спрэчкі (пра іх нагадаў В. Шарапаў)—рэканструяваць Нямігу, ці пакінуць старой? «Няміга — гэта гісторыя Мінска. Зянічым яе — забудземся, які быў ранейшы Мінск»,— даказвалі адны. «Старая Няміга не мае ніякай архітэктурнай каштоўнасці і выпадае з агульнага архітэктурнага ансамбля новага Мінска»,— пярэчылі другія.

Не будзем далей паглыбляцца ў сутнасць спрэчкі. Тым больш, што зараз яна беспрадметная — старой Нямігі ўжо няма. Заўважым толькі, што прыхільнікі новай Нямігі — архітэктары, планіроўшчыкі, мастакі, на нашу думку, зрабілі ўсё, каб даказаць сваю слушнасць. Калі іх задума будзе здзейснена (а сумнявацца ў гэтым няма падстаў), дык гэта будзе вуліца — цуд. З вышыннымі, на рэдкасць прыгожымі дамамі, магазінамі, з нейкімі нябачанымі дагэтуль тратуарамі, якія падымуцца на ўзровень другога паверха.

А цяпер пра астатняе. За некалькі гадзін удзельнікі сустрэчы зрабілі вельмі цікавае падарожжа ў Мінск 1975 года, падарожжа з такім дасведчаным гідам, як Міхаіл Васілевіч Кавалёў.

Мінск 75-га. Вось ужо і Мінск 75-га... Можна дацягнуцца рукой. А толькі ж, здаецца, быў Мінск 45-га, 55-га, 65-га... Дзіўна зроблены чалавек. Не можа ён жыць без мары і ўсё ж, пакуль не пабачыць на свае вочы, не памацае ўласнымі рукамі, недзе ў душы варушыцца недавер. Маўляў, мары марамі, а жыццё... Мы ж ведаем, што сённяшні Мінск не трызніўся ў самых светлых снах тых пасляваенных гадоў, а ўсё роўна сёння слухаеш, якой будзе сталіца праз якія 3—4 гады, і зноў усё гэта не ўкладваецца ў галаве.

Памяркуйце самі. За гэтае пяцігоддзе ў Мінску будзе пабудавана каля 5 мільёнаў метраў жылой плошчы—гэта 100 тысяч кватэр. Каля 400 тысяч чалавек стануць навасельцамі. Насельніцтва двух сённяшніх Магілёваў!

Плануецца завяршыць комплексную забудову жылых раёнаў Зялёны Луг, Усход, Ракаўская шаша, Курасоўшчына, Харкаўская, Серабранка, вуліца Чкалава. Будзе завершана забудова важных гарадскіх магістраляў, якія фарміруюць сталічны цэнтр і ўезды ў горад на асноўных напрамках.

Прадугледжваецца інтэнсіўная рэканструкцыя раёна, абмежаванага Паркавай магістраллю, вуліцамі Няміга, Рэспубліканская, Апанскага і першым гарадскім кальцом, якое зараз праектуецца. Уздоўж вуліцы Танкавай пачнецца будаўніцтва буйнога жылога вышыннага комплексу, будзе працягвацца рэканструкцыя вуліц Пуліхава, Захарава, раёна вуліц Веры Харужай, Максіма Горкага і Маякоўскага... Усё і пералічыць цяжка.

Ну, а якасць? Многіх з прысутных—а народ тут сабраўся ўніклівы, зацікаўлены, які ўсё прымае блізка да сэрца,—цікавіла, **што гэта будуць за дамы, якія гэта будуць кватэры?**

— Мы любім вельмі свой горад, — сказаў народны артыст рэспублікі Сцяпан Сцяпанавіч Бірыла,— і радуемся, калі нашы госці хваляць яго. Але з песні слова не выкінеш. Не заўсёды ў нас будуюць хораша. Некалі ў нас быў аб'яўлены паход супраць архітэктурных празмернасцей. Відаць была ў гэтым патрэба. Але будаўнікі кінуліся ў другую крайнасць. Зараз многія дамы, асабліва ў мікрараёнах, падобныя, як блізняткі. Нават пафарбаваны аднолькава—у асноўным шэрыя. А я чуў, што ў многіх рэспубліках зараз ужываецца каляровая тынкоўка, якая не баіцца ні сонца, ні дажджу.

Міхаіл Васілевіч Кавалёў растлумачыў, што асноўны аб'ём жыллёвага будаўніцтва будзе весціся па новых тыпавых праектах з палепшанымі канструктыўнымі і планіровачнымі рашэннямі. У

---

**ЧАРГОВАЕ** пасяджэнне прэзідыума праўлення СП БССР было прысвечана, галоўным чынам, абмеркаванню пытання аб рабоце рэдакцыі часопіса «Полымя».

Справаздачу зрабіў галоўны рэдактар часопіса Павел Кавалёў. Ён адзначыў, што мінулы год быў для «Полымя» ўраджайным на мастацкую прозу. Чытач прыхільна сустрэў такія творы, як раман Алеся Асіпенкі «Непрыкаяны маладзік», аповесці Віктара Карамазава «Пагоннік», Аляксея Кулакоўскага «Дзе каму жыць», кінааповесць Івана Шамякіна «Эшалон у Германію» і дакументальную аповесць Алеся Якімовіча «Кастусь Каліноўскі»; цікава была прадстаўлена проза маладых. З драматургічных твораў варта адзначыць змешчаную на старонках часопіса камедыю Міколы Матукоўскага «Амністыя».

Сярод паэтычных твораў, якія, на думку П. Кавалёва, упрыгожылі часопіс, былі паэмы Аркадзя Куляшова «Далёка да акіяна» і Алега Лойкі «З твайго паверха», а таксама вершы Максіма Танка, Петруся Броўкі, Аляксея Пысіна, Аляксея Русецкага, Янкі Сіпакова і іншых.

Звярнуў увагу дакладчык на шэраг перакладных твораў, якія друкаваліся ў часопісе, назваў лепшыя нарысы, публіцыстычныя матэрыялы, крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы.

Гаворачы пра характар і накіраванасць творчых пошукаў часопіса ў 1972 годзе, П. Кавалёў сказаў, што рэдакцыя адвядзе на сваіх старонках

---

# ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ КРЫТЫКА І СУЧАСНАСЦЬ

Важнейшыя задачы літаратурна-мастацкай крытыкі абмяркоўвае пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, які пачаў работу 26 студзеня ў Цэнтральным Доме літаратараў. У прэзідыуме—кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС П. Н. Дзямічаў, загадчык аддзела культуры ЦК КПСС В. Ф. Шаура, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Герой Сацыялістычнай Працы К. А. Федзін, сакратары праўлення, дзеячы культуры.

Адкрыў пленум першы сакратар праўлення СП СССР Г. М. Маркаў.

З дакладам «Літаратурна-мастацкая крытыка і сучаснасць» выступіў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР В. М. Озераў.

Задачы, што стаяць перад дзеячамі літаратуры і мастацтва, сказаў ён, вынікаюць з грандыёзнай праграмы будаўніцтва камунізма, якую распрацаваў XXIV з'езд КПСС.

Праграмныя палажэнні XXIV з'езда КПСС працягвае і развівае толькі што апублікаваная пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Значэнне гэтага дакумента, глыбокага і натхняючага, цяжка пераацаніць. Мы з радасцю і гордасцю зноў пераконваемся, адзначыў дакладчык, што партыя ставіць пытанні развіцця літаратурна-мастацкай крытыкі ў лік першарадна важных спраў ідэйна-палітычнага жыцця грамадства. У пастанове шырока і маштабна вызначаны задачы, што паўстаюць перад крытыкай, глыбока раскрыта яе роля ў будаўніцтве камуністычнай культуры. У святле гэтай пастановы ўдзельнікі пленума і павінны абмеркаваць свае высокія і адказныя задачы.

Дапамагаць партыі ў выкананні намечанай XXIV з'ездам велічнай праграмы — значыць адстойваць, усталёўваць мовай мастацтва, прапагандаваць канструктыўны курс партыі і стваральныя справы савецкіх людзей.

В. М. Озераў падрабязна спыніўся на праблемах развіцця літаратурнай тэорыі. Падрыхтоўка да 50-годдзя ўтварэння СССР—падзеі велізарнай гістарычнай важнасці—абавязвае крытыку і тэорыю ўсё больш паглыблена вывучаць агульнасаюзны літаратурны працэс.

Выпраўляючы недахопы, перабудоўваючы сваю работу, праўленню Саюза пісьменнікаў СССР, усім пісьменніцкім арганізацыям краіны трэба будзе сканцэнтраваць увагу на канструктыўных справах, сказаў у заключэнне В. М. Озераў. Наш абавязак не на словах, а практычна забяспечыць сур'ёзнае павышэнне актыўнасці і прынцыповасці крытыкі ў правядзенні партыйнай лініі.

Затым пачаліся спрэчкі.

ТАСС.

# ПАДАРОЖЖА Ў МІНСК 75-га

## СУСТРЭЧА ТВОРЧЫХ РАБОТНІКАЎ СТАЛІЦЫ У МІНСКІМ ГАРАДСКІМ САВЕЦЕ

асноўным гэта будуць вышынныя забудовы. Першыя такія дамы выраслі ўжо ў мікрараёне Усход, Ракаўская шаша і інш.

Горад з мільённым насельніцтвам (днямі нарадзіўся мільённы жыхар Мінска) — вельмі складаны арганізм. І размова, натуральна, закранула розныя аспекты развіцця сталіцы.

Скажам, камунальная гаспадарка. На развіццё камунальнай гаспадаркі і добраўпарадкаванне горада выдаткавана амаль трэць усіх капіталаўкладанняў.

Што сюды ўваходзіць? Скажам, водазабеспячэнне. Цяжка знайсці ў краіне горад, дзе б была такая смачная пітная вада як у Мінску. Мы п'ём артэзіянскую ваду. На колькі яе хопіць? Пытанне гэтае не раз узнімалася грамадскасцю. Выказвалася трывога, што запасы падземных крыніц хутка меншаюць, бо ваду гэтую «п'юць» і прадпрыемствы.

М. Кавалёў унёс яснасць у гэтае пытанне. К канцу пяцігодкі магутнасць водазабораў павялічыцца да 232 тысяч кубаметраў у суткі. Касмічныя лічбы не заўсёды асязальныя. Канкрэтна гэта будзе выглядаць так. Калі зараз на кожнага жыхара даводзіцца 193 літры вады ў суткі, дык у 1975 годзе будзе 223 літры.

— Але ўсё роўна, — адзначыў Міхаіл Васілевіч, — пытанне эканоміі вады з парадку дня не здымаецца.

І што не вельмі радуе — забяспечыць попыт мінчан на пітную ваду толькі за кошт падземных крыніц, гаворыць ён, не ўдасца.

Яшчэ адна праблема жыцця кожнага гараджаніна — транспарт. Калі М. Кавалёў вымаўляе гэтае слова, у многіх з прысутных вырываецца цяжкі ўздых.

Але, чакайце, давайце, паслухаем, што скажа наш мэр. Ну, што ж, лічбы важкія. К канцу пяцігодкі колькасць транспарту ўзрасце на 41 працэнт. Транспартны парк Мінска павялічыцца на 280 тралейбусаў, 800 аўтобусаў, 1.300 таксі. Калі зараз у суткі перавозіцца 1,1 мільёна пасажыраў, дык у 1975 годзе — 1,6 мільёна. Працягласць тралейбусных ліній павялічыцца на 61 кіламетр.

Нам успомнілася даўняя гутарка з міністрам аўтамабільнага транспарту рэспублікі А. Андрэевым, у час якой ён скардзіўся, што работнікаў транспарту часам лаюць без падставы. У Мінску, напрыклад, амаль увесь пасажырскі транспарт рухаецца па Ленінскім праспекце. Машыны вымушаны ісці ледзь не ўпрытык. Усё гэта тармозіць рух.

Міністр, вядома, меў рацыю. Так атрымалася, што тыя, хто праектаваў пасляваенны Мінск на самай першай стадыі, не ўлічыў бурнага росту горада ў бліжэйшыя 10—15 гадоў. Вось і атрымалася, што амаль адзіная транспартная магістраль сталіцы — Ленінскі праспект.

Цяпер даводзіцца шукаць выйсце. Якое яно? М. Кавалёў расказвае, што за пяцігодку будзе завершана будаўніцтва заходняга і ўсходняга дублёраў Ленінскага праспекта (першага па вуліцах Няміга і Савецкіх пагранічнікаў з пуцеправодам праз чыгунку па вуліцы Розы Люксембург і другога па вуліцах Ульянаўскай — Металістаў). А ўсяго будзе пабудавана 36 кіламетраў магістральных вуліц, некалькі пуцеправодаў, мастоў, пешаходных пераходаў.

Ну, што ж, трэба спадзявацца, што праблема транспарту будзе вырашана. Хаця... З адной праблемы вырастае другая. Уявіце сабе тысячы аўтобусаў, таксі, асабістых і службовых легкавушак, грузавых машын, якія з раніцы да вечара лётаюць па горадзе і... атручваюць паветра. Чым, таварышы, будзем дыхаць?

Размова пераходзіць у іншую плоскасць. Гаворка заходзіць аб ахове акаляючага асяроддзя. Пра нашу Свіслач, дзе не кожны рызыкне і нагу памачыць, пра радыятарны і асфальтавы заводы, ад якіх няма жыцця навакольным жыхарам, — ім даводзіцца дыхаць смуродам, пра вялізную звалку ля аўтазавода...

— Ці не час ужо забараніць у Мінску будаўніцтва прамысловых прадпрыемстваў? — пытаецца Іван Пятровіч Шамякін.

М. Кавалёў адказвае яму, што ў далейшым у сталіцы намечана будаваць толькі прадпрыемствы, звязаныя з абслугай насельніцтва. Скажам, мясакамбінат, завод шампанскіх він і г. д.



— Такая будзе Няміга заўтра, — гаворыць М. Кавалёў.

Фота Ул. КРУКА.

Што датычыцца Свіслачы, то, маўляў, нічога тут дзіўнага няма. Сцёк вады тут складае 3 кубаметры ў секунду, а скід у раку сцёкавых вод — 4 кубаметры ў секунду. Не спраўляецца з ачысткай сцёкавых вод і станцыя аэрацыі, дзе праводзіцца пакуль што механічная ачыстка вады і толькі з гэтага году пяройдуць на ачыстку біялагічную. Вялікія надзеі ўскладаюцца на Вілейска — Мінскую водную сістэму, якая дазволіць, так сказаць, аздаравіць Свіслач, павялічыць яе ёмістасць ледзь не ў пяць разоў.

Лёгкія горада — яго зялёнае ўбранне — паркі, скверы, сады, насаджэнні на вуліцах. У гэтай пяцігодцы мяркуецца пашырыць і добраўпарадкаваць усе сталічныя паркі, вялікія работы па добраўпарадкаванні будуць праведзены ў зонах масавага адпачынку на рэках Вяча, Пціч.

І ўсё ж некаторыя з выступаючых — народная артыстка рэспублікі Ганна Браніславаўна Абуховіч, Сцяпан Сцяпанавіч Бірыла, кінааператар студыі «Беларусьфільм» Ф. Осіпаў — наракалі на тое, што ў горадзе дрэнна ахоўваюцца і даглядаюцца насаджэнні.

— Няма ў нас у гэтай справе сапраўднай культуры, — сказала Г. Абуховіч. — Ці то не хапае спрактыкаваных садоўнікаў, толькі дрэвы на многіх вуліцах па многа гадоў не абразаюцца, растуць як у лесе.

Ф. Осіпаў заўважае, што ў нас нямала яшчэ выпадкаў варварскіх адносін да зялёнага ўбору сталіцы, асабліва сярод падлеткаў. Хто падлічыў, колькі маладых дрэўцаў паламана, колькі газонаў вытаптана. Відаць, мы мала займаемся выхаваннем падлеткаў, не ведаем, чым запоўніць іх вольны час...

Міхаіл Васілевіч сказаў, што гэтыя пытанні хвалююць і гарадскія ўлады. Утрыманне зялёных насаджэнняў будзе аддадзена пад кантроль і адказнасць раённых камунгасаў. М. Кавалёў выказаў меркаванне, што трэба мець асобныя арганізацыі па эксплуатацыі зялёных насаджэнняў і іх вырошчванні замест таго, каб усёй гэтай справай займаўся адзін трэст зялёнага будаўніцтва, як зараз.

Вялікая размова на сустрэчы зайшла пра культуру горада, пра яго мастацкае афармленне, манументальную прапаганду, архітэктуру малых форм.

За гэту пяцігодку ў Мінску прыбавіцца некалькі буйных кінатэатраў — на Харкаўскай вуліцы на 800 месц, на вуліцы Багдана Хмяльніцкага на 1.400 месц, у Чыжоўцы — на 800 месц, такі ж у Зялёным Лузе.

У горадзе будуць пабудаваны дзве буйныя музычныя школы, музычнае вучылішча, Дом літаратараў, новае памяшканне тэатра імя Янкі Купалы, некалькі палацаў культуры.

— І што нас вельмі радуе, — сказаў М. Кавалёў, — у гэтым годзе ў Мінску будуць устаноўлены скульптурныя помнікі песнярам беларускага народа Янку Купалу і Якубу Коласу, дзевяностагоддзе якіх будзе святкаваць рэспубліка.

— А Максіму Багдановічу? — спытаў Алесь Бачыла. — Наш выдатны паэт Максім Багдановіч, дарэчы, мінчанін, хіба не заслужыў помніка? Трэба было даўно падумаць і пра стварэнне літаратурнага ці мемарыяльнага музея ў доме, дзе ён жыў.

Пра скульптурнае ўпрыгожванне горада гаварыў С. Бірыла, які заўважыў, што многія скульптуры, якія ўстаноўлены ў парках, скверах, на вуліцах горада, невысокай мастацкай якасці, што Саюзу мастакоў рэспублікі трэба было ўзяць кантроль над гэтай справай у свае рукі.

Пра тое, што ў горадзе дрэнна прадумана тэатральная рэклама, якую мосцяць абы дзе, гаварыў дырэктар тэатра оперы і балета М. Шаўчук. Дырэктар філармоніі Г. Загародні ўзняў пытанне аб будаўніцтве ў Мінску яшчэ адной канцэртнай залы і зялёнага тэатра.

У канцы сустрэчы выступіў першы сакратар Мінскага гаркома КПБ Васіль Іванавіч Шарапаў, які расказаў пра эканоміку сталіцы, пра рубяжы, якія ўзяты ў гэтай пяцігодцы мінчанамі.

**М. ЗАМСКІ.**

# ШЫРЭЙ АДЛЮСТРОЎВАЦЬ СУЧАСНАСЦЬ

значнае месца матэрыялам, якія прысвеціць 50-годдзю ўтварэння СССР, будзе дбайна захоўваць і развіваць тыя літаратурныя традыцыі, што склаліся ў часопісе «Полымя» за 50 год існавання, шырока разгорне прапаганду рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Коратка спыніўся дакладчык і на арганізацыйных пытаннях, адзначыўшы некаторыя недахопы ў рабоце рэдакцыі.

З садакладам выступіў намеснік старшыні праўлення СП БССР А. Грачанікаў. Ён падсумаваў творчыя здабыткі часопіса за мінулы год, параўнаў іх з тым, што друкавалася ў гэтым выданні ў 1970 годзе, і знайшоў, што «па значнасці празаічных твораў, па іх грамадскім гучанні, ідэйна-мастацкіх якасцях больш пашанцавала часопісу ў 1970 годзе».

Многа месца адвёў у прамове А. Грачанікаў паэзіі на старонках «Полымя». Нават няпоўны пералік імён тых паэтаў, што змясцілі свае творы ў часопісе, сведчыць, што беларуская паэзія інтэнсіўна развіваецца, асвойвае новыя паэтычныя аблогі, пашырае зону ўздзеяння на чытача.

Актыўна выступаюць на старонках выдання крытыкі — Бугаёў, Каваленка, Юрэвіч, Арочка, Калеснік, Шкраба, Александровіч, Андраюк, Бярозкін. Але, на жаль, і ў іх выступленнях не заўсёды заўважаецца праблемны падыход да аналізу сучаснага стану беларускай паэзіі, а таксама прозы. У той жа час многія рэцэнзіі на новыя кнігі пісьменнікаў носяць у часопісе «інтымны», кампліментарны характар, у іх не робіцца нават спробы закрануць важнейшыя праблемы творчасці.

Адзначаючы шэраг станоўчых момантаў у рабоце рэдакцыі часопіса «Полымя», А. Грачанікаў заўважыў, што аддзел навукі яшчэ пакуль не знайшоў свайго аблічча.

У абмеркаванні работы часопіса «Полымя» прынялі ўдзел старшыня праўлення СП БССР Максім Танк, першы намеснік старшыні праўлення Іван Шамякін, пісьменнікі Максім Лужанін, Анатоль Вярцінскі, Дзмітрый Бугаёў, Алесь Бачыла, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка, Аляксей Русецкі, Язэп Семяжон і іншыя. Былі зроблены карысныя заўвагі і прапановы. У прыватнасці, А. Вярцінскі быў супраць новай рубрыкі часопіса «Літаратура ў школе». На яго думку, спецыяльна для настаўнікаў змяшчаць артыкулы не мэтазгодна, бо ўсё, што друкуецца ў «Полымі», гэта і для настаўнікаў. Гэтую заўвагу падтрымалі М. Лужанін, Я. Семяжон, які слушна прапанаваў друкаваць у «Полымі» аглядныя артыкулы, прысвечаныя беларускай прозе і паэзіі. Супрацоўнікі рэдакцыі І. Пташнікаў і Б. Сачанка гаварылі пра пэўныя цяжкасці ў рабоце аддзела літаратуры, выказалі меркаванне, што не варта змяшчаць многа перакладных твораў на старонках «Полымя», неабходна ўлічваць іх якасць, ашчадней адносіцца да рабочай плошчы часопіса. Да гэтай думкі далучыўся і Аляксей Русецкі.

І. Шамякін падкрэсліў важнасць абмеркавання часопіса «Полымя», бо яно праходзіць у знамянальны час — пасля XXIV з'езда КПСС, калі працоўныя краіны натхнёна ажыццяўляюць гістарычныя рашэнні партыі. Гэта абавязвае і часопіс удумліва і глыбока аналізаваць на сваіх старонках тыя важнейшыя працэсы, што адбываюцца сёння ў жыцці ўсяго нашага грамадства, больш актыўна праводзіць лінію партыі ў літаратуры, больш гаварыць аб тых надзённых пытаннях і праблемах, якімі жыве наш народ.

І. Шамякін звярнуў увагу на той факт, што баявы жанр публіцыстыкі ў часопісе яшчэ не на належным узроўні. Гэта датычыцца і некаторых іншых рэспубліканскіх выданняў. Цяжка назваць сёння хоць адзін вельмі цікавы публіцыстычны артыкул, які б хацелася чытаць і перачытваць: і на філасофіі, і па эканоміцы, і па міжнародным жыцці.

І. Шамякін не бачыць нічога дрэннага ў тым, што рэдакцыя атрымлівае ў апошні час вельмі многа празаічных твораў, хай нават і нераўнацэнных па якасці: гэта ж дае магчымасць выбіраць найлепшыя для друку. Што ж датычыць перакладаў у часопісе, то трэба змяшчаць толькі арыгінальнае і новае з твораў літаратараў братніх рэспублік і краін сацыялізма.

М. Танк, падсумоўваючы гаворку пра часопіс «Полымя», падкрэсліў карысць тых заўваг і прапаноў, якія былі зроблены пісьменнікамі ў час абмеркавання. Часопіс мае багатыя літаратурныя традыцыі, заслужыў сабе добрае імя, але ў яго ёсць немалыя магчымасці яшчэ больш умацаваць свой аўтарытэт у чытача. Пажадана, каб, накіроўваючы пэўныя намаганні на паляпшэнне аддзелаў прозы і паэзіі, рэдакцыя не забывала пра раздзел публіцыстыкі, друкавала больш артыкулаў па выкрыцці рэакцыйнай сутнасці сучаснага імперыялізму.

Абмеркаванне часопіса «Полымя» на пасяджэнні прэзідыума СП БССР паказала, што рэдакцыі трэба ўважліва адбіраць творы для публікацыі, старанна рэдагаваць іх і трымаць арыенціроўку на стварэнне шматпланавых сучасных твораў аб рабочым класе і працоўных вёскі, больш актыўна праводзіць лінію партыі ў літаратурна-мастацкай крытыцы.

## ГЕРОЙ — РАБОЧЫ ЧАЛАВЕК

На гэтым тыдні ў Горкім праходзіць другі Усесаюзны фестываль фільмаў, прысвечаных рабочаму класу.

«Беларусьфільм» прадставіў на фестываль дакументальныя фільмы «Мы — сіняблузнікі» (аўтар сцэнарыя Г. Колас, рэжысёр і аператар І. Пікман) і «Трактар учора, сёння, заўтра» (аўтар сцэнарыя і рэжысёр Ч. Цяўлоўскі, аператар Г. Лейбман).

## ПАРТЫЙНЫ СХОД КАМПАЗІТАРАЎ

Адбыўся партыйны сход Саюза кампазітараў БССР. З дакладам аб творчых выніках мінулага года выступіў старшыня праўлення Рыгор Раманавіч Шырма. Ён адзначыў, што ў актыве кампазітараў рэспублікі з'явілася шмат новых музычных твораў. Няблага папрацавалі музыказнаўцы. Было праведзена нямала цікавых сустрэч кампазітараў са слухачамі. Разам з тым, дакладчык выказаў пэўную трывогу за жанр камерна-вакальнай і песеннай музыкі, які яшчэ слаба распрацоўваецца беларускімі кампазітарамі.

І. Лучанок, Б. Смольскі, Ю. Семяняка, А. Ракава, Г. Вагнер, К. Сцепанцэвіч, якія выступілі ў спрэчках, расказалі пра свае творчыя планы, выказалі шэраг прапаноў, накіраваных на паляпшэнне работы Саюза кампазітараў.

**Д. НІКАЛАЕЎ.**

## ДЭВІЗ «ЖЫЦЦЁ — НАЙЦІКАВЕЙШАЯ КНІГА»

*Міністэрства асветы БССР, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку і выдавецтва «Народная асвета» падвялі вынікі рэспубліканскага конкурсу на лепшыя падручнікі па беларускай літаратуры для 8 і 9—10 класаў школ Беларусі.*

*Першую прэмію журы конкурсу прысудзіла крытыку Р. Шкрабе за рукапіс пад дэвізам «Жыццё — найцікавейшая кніга».*

*Калегія Міністэрства асветы БССР рэкамендавала выдавецтву «Народная асвета» падрыхтаваць рукапіс да выдання ў якасці вучэбнага дапаможніка па беларускай савецкай літаратуры для 9—10 класаў на 1973-74 навучальны год.*

## ТВОРЧЫ ВЕЧАР А. КАРПАВА

**У Саюзе кінематаграфістаў БССР адбыўся вечар, прысвечаны 50-годдзю з дня нараджэння і 30-годдзя творчай дзейнасці рэжысёра студыі «Беларусьфільм», заслужанага дзеяча мастацтваў Казахскай ССР Аляксандра Карпава.**

**Нядаўна на «Беларусьфільме» Аляксандр Карпаў скончыў шматсерыйны тэлевізійны фільм «Белая зямля» і прыступіў да работы (сумесна з славацкімі кінематаграфістамі) над мастацкай кінакарцінай «Капітан Ян» — пра Героя Савецкага Саюза і нацыянальнага героя Чэхаславакіі Яна Налепку.**

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

*РЭПАРТАЖ З БЫЛОГА ПОЛЯ БОЮ*

# ПАЭМА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Вёска Дзеражычы стаіць непадалёку ад Лоева, на правым беразе Дняпра. Бераг высокі і круты. Адсюль добра бачны суседнія вёскі, не толькі беларускія, але і ўкраінскія. Бо якраз у гэтым месцы, па Дняпры, праходзіць граніца паміж братнімі рэспублікамі. З правага боку раскінулася вёска Бывалькі — цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», крыху ніжэй па Дняпры — вёска Глушэц, а за Дняпром, у даліне, украінскае сяло Любечы. Гэта — Чарнігаўшчына.

Нас тут ужо чакалі. На беразе сабралася многа людзей — старых і маладых. Дзяўчаты ў нацыянальных беларускіх касцюмах паднеслі нам хлеб-соль, букеты жывых кветак.

Дарункі беларускай зямлі прыняў баявы генерал Барыс Аляксандравіч Барынаў, які прыехаў з Масквы. Ён камандаваў стралковай дывізіяй, якая восенню 1943 года адной з першых фарсіравала Днепр, ступіла на беларускую зямлю і вызваліла ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў многія прыбярэжныя вёскі, у тым ліку Дзеражычы.

Праз 27 гадоў тут сабраліся ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, баявыя сябры генерала Барынава — былы начальнік штаба дывізіі, палкоўнік запасу Міхаіл Якаўлевіч Вайсберг, начальнік штаба асобнага артылерыйскага палка, палкоўнік Уладзімір Дзмітрыевіч Лукаеў, былы камандзір сапёрнага ўзвода, Герой Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Парыгін, былы камандзір дывізійнай роты разведкі Павел Кузьміч Ежак са сваёй франтавой сяброўкай Марыяй Андрэеўнай Ежак. Яны прыехалі з Пскоўскай вобласці, з горада Вялікія Лукі, куды закінуў іх лёс пасля баявых паходаў.

Гасцей сабралася многа. Тут і генералы, і афіцэры, і радавыя. І ніхто з іх не называў сябе «былым», кожны лічыў сябе і сёння салдатам.

Як толькі выйшлі на бераг Дняпра, Павел Кузьміч Ежак дастаў з партфеля карту і разгарнуў яе.

— Вось ён,— паказаў Павел Кузьміч алоўкам на карце.

— Хто? — спыталі таварышы.

— Бачыце, вунь там, за Дняпром, чарнеецца ў хмызняках? — Ежак кінуў позірк туды, на левы бераг Дняпра, дзе сярод балота віднелася вёсачка

— Гэты ж Змей! Пасёлак Змей. Дзіўная назва, праўда? А мая рота гэты пасёлак запомніла на ўвесь век...

Ежак пачаў расказваць пра сваіх разведчыкаў, якія першыя падышлі да Дняпра цёмнай асенняй ноччу ў сорак трэцім годзе і першыя ступілі на беларускую зямлю.

Ніколі не забыць той ночы. Разведчыкі і сапёры пераправіліся ціха, без адзінага шолаху. За імі — перадавыя часці. Адным з першых пераправіўся батальён капітана Меньшуна, у ім быў і я — сакратар дывізійнай газеты «Призыв Родины».

Прыгадваю, як капітан Ежак стаяў тады на гэтым самым месцы, тады яшчэ зусім малады афіцэр. У руках яго быў скураны камандзірскі планшэт. З картай, на якой была пазначана лінія абароны немцаў.

У тую ноч без перапынку курсіравалі праз Днепр пантоны, лодкі, самаробныя плыты — усё, што магло плаваць. Пад пякельным агнём сапёры батальёна пераправілі тысячы байцоў.

Пераправіўшыся на правы бераг Дняпра разам з батальёнам капітана Меньшуна, я быў у яго баявых парадках, побач з камбатам, у адным акопе. Камбат сам ляжаў за кулямётам і адбіваў контратаку ворага. Я ляжаў побач і пасоўваў кулямётную стужку, замяняючы другі нумар баявога разліку. За ноч было адбіта некалькі контратак фашыстаў.

А праз тыдзень-два, калі я ўжо быў у рэдакцыі газеты і пісаў нататкі пра баявыя подзвігі байцоў пры фарсіраванні Дняпра, да нас прыйшла радасная вестка. За адвагу і мужнасць, праяўленыя ў баях за Днепр, 36-ці байцам, сяржантам і афіцэрам нашай дывізіі было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Дзесяткі, сотні воінаў былі ўзнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі. Радасць не мінула і мяне. Я быў узнагароджан баявым ордэнам.

І вось мы зноў разам стаім на беразе Дняпра, на высокай кручы, там, дзе грымелі баі больш чвэрці стагоддзя назад. Многіх няма сярод нас. Адны загінулі ў жорсткіх бітвах, другія памерлі пасля вайны.

Што ж нас сюды прывяло, у гэту прыдняпроўскую беларускую вёску Дзеражычы, з самых розных, далёкіх і блізкіх куткоў нашай неабсяжнай Радзімы: з Масквы і Астрахані, з Данецка і Ташкента, з Рыгі і Вялікіх Лук, з Мінска і Харкава? Нас, трыццаць пяць чалавек, былых воінаў адной дывізіі, запрасілі сюды на адкрыццё помніка нашым аднапалчанам, вось гэтыя шчырыя, простыя, сардэчныя людзі.

У першых радах стаяць дзеці з кветкамі ў руках. Гэта вучні Дзеражыцкай сярэдняй школы на чале з дырэктарам Ганнай Акімаўнай Арцёменка.

Угледаючыся ў твары гасцей, Ганна Акімаўна пазнае амаль усіх нас. Гэтыя твары яна бачыла не раз на фотаздымках у школьным музеі баявой славы. Чырвоныя следапыты Дзеражыцкай сярэдняй школы многае зрабілі, каб увекавечыць памяць герояў — воінаў Савецкай Арміі, якія восенню і зімой 1943 года першыя фарсіравалі Днепр у гэтым раёне, потым вызвалялі Лоеў, Калінкавічы, Мазыр, Брагін і іншыя гарады і сёлы беларускага Палесся.

Калі першы сакратар Лоеўскага райкома партыі Сяргей Паўлавіч Бабыр пачынаў мітынг, прысвечаны адкрыццю помніка воінам 61-й арміі, перад трыбунай з'явілася мора кветак — зялёных, белых, чырвоных, сініх — мноства шматкаляровых жывых вянкоў. Іх прынеслі сюды бацькі і дзеці, малыя і старыя, каб пакласці на мармуровыя пліты з імёнамі тых, хто не вярнуўся з вайны.

Пасля мітынгу мы ўскладаем на магілу вянкі, чытаем:

Герой Савецкага Саюза гвардыі старшы лейтэнант Міхайлаў Мікалай Іванавіч.

Герой Савецкага Саюза гвардыі радавы Самсонаў Барыс Васілевіч.

Герой Савецкага Саюза гвардыі радавы Папоў Фёдар Кузьміч.

Герой Савецкага Саюза і гэтак далей...

Сем Герояў Савецкага Саюза ў адной брацкай магіле! А колькі тут безыменных воінаў, невядомых салдат.

Калі я падышоў да мармуровай пліты, на якой залатымі літарамі напісаны імёны герояў, погляд мой спыніўся яшчэ на адным імені — Георгія Васілевіча Майсурадзе, Героя Савецкага Саюза — радавога 519-га стралковага палка. Гэта імя мне асабліва помніцца. Радавы Майсурадзе служыў у нашай дывізіі. Гэта пра яго гераізм у баях за вызваленне вёскі Глушэц на правым беразе Дняпра 9 кастрычніка 1943 года я напісаў баладу. Потым гэта балада перарасла ў паэму. Паэма некалькі разоў друкавалася ў газетах, у зборніках. Тут, у Дзеражычах я заўважыў яе першапачатковы варыянт пад шклом у музеі баявой славы. Яго прыслаў сюды хтосьці з маіх баявых сяброў перад тым, як я сам падарыў музею кнігу.

Доўга ніхто не ведаў, што герой

## Паэтычная паверка

Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ

### З ЦЫКЛА «ЖАНЧЫНЫ»

●

Быў май, жаночы голас плакаў
і, як па промні, плыў у даль —
У даль, дзе зззяе мора макаў
пад небам чыстым, бы
крышталь,
Я чуў, як плакала жанчына.

Уздоўж вайны, усцяж Зямлі
яна штогод ідзе да сына —
туды, дзе макі расцвілі...

Кіёк, а за плячыма — клунак.
Брыдзе матуля ў белы свет.
Як бежанцы — натоўпы думак,
яна за імі — след у след.

Пагляд ад спёкі заімглёны,
спіна стамлёная смыліць...
Адно ёй сонца — над зямлёю,
другое сонца — у зямлі.

### НА КУРСКІМ ВАКЗАЛЕ Ў МАСКВЕ

І радасць
і трывога апаноўваюць,
як толькі на перон прыйду...
Але ж:
«А што,
калі ты думаеш па-новаму?
А што —
калі па-новаму жывеш?..»
Ад зыркага святла плашчом
затулены,
гляджу туды,
дзе ўсход запалавеў...
Такі ж,
як я,—
узрушана-сутулены
спыняецца паблізу чалавек.
Яму,
відаць
гарчэй цыгаркі горкае
чакаць
і непакоіцца вось так...
— Сюды прыходзіць
з Горкага?
— Так, з Горкага.
— У восем роўна?
— Што?
— У восем?..
— Так!
...І радасць
і трывога
апаноўваюць,
калі з другога боку ты ідзеш...
А што,
калі ты думаеш
па-новаму?
А што —
калі па-новаму жывеш?..

### РАМАНС

Прыйшла — і разварэдзіла
ўспаміны,
кранула запаветную струну,
сыграла вальс пакінутай
краіны,
глядзела доўга-доўга на сцяну.

Але сцяна маўклівасці ляжала
паміж дваіх, развенчаных
дваіх...
...Загаварыла ўрэшце. Колькі
жалю
было ў высокім голасе тваім!

Ды што мне знаць, хто праў,
хто вінаваты...
Ці ж не сама ты красавіцкім
днём
пакінула маю святліцу-хату,
пайшла ў чужы і непрытульны
дом?

І клясціся не трэба, што
кахала...
Ці ж не сама ты позняю
вясной

не загінуў. Пасля вайны радавы Майсурадзе, якому пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, жыў на сваёй радзіме ў Грузіі, у вёсцы Кведзі Онскага раёна. Да 1966 года ён працаваў брыгадзірам у калгасе. У яго нарадзіўся сын Зураб, а ў Зураба свой сын — Георгі Майсурадзе ўжо быў дзедам, калі яго адшукалі і паведамілі, што ён — Герой Савецкага Саюза. Ён нават сам пра гэта не ведаў, бо цяжка параненага яго сябры вынеслі з поля бою і ён аказаўся ў глыбокім тыле. Больш года лячыўся ў шпіталі. Усе лічылі, што ён загінуў, калі кінуўся на амбразуру варожага дзота. Але цудам ён застаўся ў жывых. Так і жыў у невядомасці, пакуль дзеці з Дзеражыч не адшукалі яго.

Неўзабаве яму была ўручана Залатая Зорка Героя. Але да гэтага дня, да дня нашай сустрэчы, ён не дажыў. Летам 1966 года памёр ад старых салдацкіх ран. І мне хочацца працягнуць паэму пра свайго героя, свайго баявога сябра.

Вечарам, пасля мітынгу і наведвання музея баявой славы, праўленне калгаса «Ленінскі шлях» наладзіла нам шчыры, сардэчны прыём. Старшыня калгаса Віктар Паўлавіч Дземідзенка расказаў аб сваёй сельскагаспадарчай арцелі. Першы год дзевятай пяцігодкі яна закончыла паспяхова, дабіўшыся высокіх ураджаяў, выканала план па здачы дзяржаве збожжа і тэхнічных культур, мяса і малака. Кожная сям'я ў калгасе забяспечана ўсім неабходным. На цэнтральнай сядзібе сельгасарцелі, у вёсцы Бывалькі, як і ў іншых, пабудаваны сталовая, памяшканне сельсавета, новыя дамы для калгаснікаў. На будучы год намечана будаўніцтва новай школы.

Ад імя ўсіх прысутных генерал Барынаў падзякаваў абласному камітэту партыі, райкому, райвыканкому, праўленню калгаса, настаўнікам і школьнікам вёскі Дзеражычы за ўсе тыя клопаты, якія яны праявілі і праяўляюць аб нашых героях — героях далёкай, даўно адгрымеўшай бітвы.

І тут хтосьці прыгадаў нашу песню, як і пра тых, каго няма з намі.

Соловьи-соловушки
Поют нам до зори,
Соловьи-соловушки
Поют тому, кто смел.
Мы пройдем сквозь воды,
Сквозь дожди, огни.
Только жаль, что рано
Генерал наш поседел.

Песню падхапілі ўсе.

Я паглядзеў на свайго генерала, галава якога зусім пасівела, і ўспомніў, што гэтая песня была напісана ў нас, у рэдакцыі дывізійнай газеты, дзе я працаваў адказным сакратаром. Ёсць у гэтым і мая доля.

Пра кожнага з прысутных у гэтай жа зале можна было б скласці франтавую песню, якую мы самі склалі пра свайго генерала і спявалі нярэдка ў перапынках паміж баямі

# ПЕСЕНЬ І ДУМ УЛАДАР

*УРАЧЫСТЫ ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ ВАСЬМІДЗЕСЯЦІГОДДЗЮ Р. Р. ШЫРМЫ*



**Народнага артыста СССР Р. Шырму віншуюць кампазітар І. Лучанок, музычны кіраўнік народнага хору БССР К. Паплаўскі, заслужаны дзеяч культуры БССР А. Русак, народны артыст СССР Г. Цітовіч, заслужаны артыст БССР У. Кавальчук, і заслужаны артыст Казахскай ССР Хв. Буйневіч.**

Фота Ул. КРУКА.

ЯГО ІМЯ ведаюць у самых далёкіх кутках нашай рэспублікі. Як любяць і шануюць у нас песню, так любяць і паважаюць чалавека, які сваё жыццё прысвяціў песні. Збіраў яе, запісваў, апрацоўваў, нястомна прапагандаваў лепшыя ўзоры песеннага фальклору

Вучоны, кампазітар, пісьменнік, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, актыўны грамадскі дзеяч, чалавек вялікага сэрца — такім мы ведаем нашага дарагога дзядзьку Рыгора.

24 студзеня глядзельная зала Беларускай дзяржаўнай філармоніі была перапоўнена. Прадстаўнікі грамадскасці сталіцы, шматлікія госці з братніх рэспублік прыйшлі на ўрачысты вечар, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння і 60-годдзю творчай дзейнасці песняра беларускага народа Рыгора Раманавіча Шырмы.

У прэзідыуме — кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў, першы сакратар ЦК ЛКСМБ У. І. Падрэз, госці з братніх рэспублік, прадстаўнікі грамадскасці Мінска.

Вечар адкрыў намеснік старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі Ю. Семяняка.

Аб жыцці і творчым шляху Рыгора Раманавіча Шырмы расказаў народны артыст БССР прафесар А. Багатыроў.

Слова атрымлівае сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін. Ад імя ЦК Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР ён цёпла і сардэчна віншуе Рыгора Раманавіча Шырму, жадае юбіляру моцнага здароўя, новых вялікіх творчых поспехаў.

Звяртаючыся да юбіляра, А. Т. Кузьмін гаворыць:

— Рабочыя і калгаснікі, інтэлігенцыя, моладзь, увесь наш народ высока цэняць і бязмежна любяць Вас, вернага сына Камуністычнай партыі, выдатнага музыканта і літаратара, вучонага-даследчыка, буйнага грамадскага дзеяча...

Сваёй самаадданай, сапраўды тытанічнай працай Вы зрабілі здабыткам працоўных чароўнае, непаўторнае хараство беларускай песеннай творчасці і гэтым унеслі найвялікшы ўклад у развіццё беларускай савецкай сацыялістычнай культуры.

Акадэмічная харавая капэла БССР, стваральнікам, мудрым выхавацелем і кіраўніком якой Вы былі многія гады, з'яўляецца гордасцю нашага народа, яна стала адным з лепшых мастацкіх калектываў краіны. Выпеставаная Вамі, яна служыць цяпер эталонам для шматлікіх харавых калектываў, з'яўляючыся прыкладам віртуознага майстэрства і мастацкай дасканаласці.

Як нястомны збіральнік і папулярызатар песень народа, як аўтар шматлікіх артыкулаў у цэнтральнай і рэспубліканскай прэсе па праблемных пытаннях развіцця музычнага мастацтва, Вы дапамаглі мільёнам і мільёнам людзей у нашай краіне і за рубяжом пазнаць багацце духоўнага свету беларускага народа ў яго ўзаемасувязях з культурай рускага, украінскага і іншых братніх народаў.

Пад бурныя апладысменты А. Т. Кузьмін уручае юбіляру Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР, якой Рыгор Раманавіч Шырма ўзнагароджаны за заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння.

Юбіляра цёпла віталі сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР П. Савінцаў, міністр культуры БССР Ю. Міхневіч, першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякін, заслужаны дзеяч мастацтваў Украінскай ССР Ю. Мейтус, сакратар Беларускага савета прафсаюзаў М. Дубкова, народны артыст Літоўскай ССР прафесар К. Кавяцкас, намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома М. Жукоўскі, адказны сакратар Саюза кампазітараў Арменіі Ю. Казаран, старшыня праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання народная артыстка СССР Л. Александроўская, першы сакратар ЦК ЛКСМБ У. Падрэз, рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі народны артыст БССР У. Алоўнікаў, першы сакратар Быхаўскага райкома партыі Д. Комар, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі В. Грамыка, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР народны артыст СССР Г. Цітовіч, воіны Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Г. Загародні, дырэктар Рэспубліканскага дома народнай творчасці Г. Талчынская, выхаванцы спецыяльнай сярэдняй музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, прадстаўнікі творчых калектываў Мінска.

У адрас юбіляра паступіла больш дзвюхсот віншаванняў. На вечары зачытваюцца прывітальныя адрасы, тэлеграмы.

Са словам у адказ выступіў юбіляр. Рыгор Раманавіч шчыра падзякаваў за цёплыя, сардэчныя віншаванні і добрыя пажаданні. Словы глыбокай падзякі сказаў ён Камуністычнай партыі Беларусі, ураду рэспублікі за высокую ацэнку яго працы.

Вечар закончыўся вялікім канцэртам, у якім прынялі ўдзел Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР, Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла БССР, выпеставаная Рыгорам Шырмам, майстры мастацтва сталіцы. Выконваліся творы беларускіх кампазітараў, народныя песні, запісаныя юбілярам. Бурна вітала глядзельная зала артыстаў капэлы за цудоўнае выкананне «Салавейкі» Чайкоўскага і песні А. Багатырова «Люблю наш край» (словы К. Буйло). У гэты час капэлай дырыжыраваў Рыгор Раманавіч Шырма. З вялікім натхненнем і ўздымам выканалі спевакі праслаўленага калектыву «Многія лета» ў гонар нашага дарагога юбіляра.

у кожным стрэчным голасе
шукала
другі матыў, але — не мой,
не мой!

●

Прыйшоў не папракаць, не
наракаць:
так лёгка разлюбіла,
знелюбіла
і ранкам галубіным, як на
крылах,
прачнулася ў другога на руках.

Прыйшоў не дамагацца,
не маліць...
Няхай, няхай, не знаючы
падману,
Як год назад — звініць
струна ў тумане,
як тысячу гадоў — душа
смыліць...

Не, не, я не прыйшоў, каб даць
зарок,
што ўсё-усё мінулае забуду
і што рыдаць, нібы дзікун,
не буду
адзін сярод маўклівых
незнарок...

Прыйшоў не развянчаць,
не абвянчаць.
Пачуцці забінтую — быццам
раны...
Пачаў я позна, скончыў гэтак
рана,
Таму на вуснах — роспачы
пячаць.

●

Ля нашае хаты,
у садзе рабінавым,
вецер асеннюю песню
развучвае...
Глянь,
паважаная,
што нарабілі мы:
гордасць на гордасць —
рукі разлучаны.
Хто вінаваты:
любоў мая ціхая,
ці рэўнасць,
да вострага промня падобная?

. . . . . . . . .

Толькі чуваць,

як адлучана цінькае,
бы птушаня,
наша мара
пад вокнамі.

Цяпер яна крылцамі ў шыбіну
стукае,
Цяпер яна плача...
Раней так не плакала!
Хто яе бачыць?
Хто яе слухае?..
Гордасць на гордасць —
як перад плахаю.

●

Прасветлена-ліловыя аблокі
і зелянява-сіняя вада
сустрэліся... І — як акінуць
вокам —
памчалі ўдалеч... Краю не
відаць.

Такая рань,
такая рунь буяла!
Такое красаванне тут было!..
Вясковы двор
з вярбой і вераб'ямі
здаваўся мне надзорным
караблём.

Ізноў я тут... Ізноў рука
узлятае...
Але — не падтрымаеш ты яе...
Адно, што Прыпяць
гулка-залатая,
як і раней, у левы бераг б'е.

●

Па шэрай,
вострай,
вечаровай пожні,
па травах,
што ў чаканні акалелі,
вярнуся я ў спогад твой
апошні —
схілю калені...
Не прыніжэнне — позняе
прашэнне:
прабач мае памылкі, супакой...
Маё вяртанне —
не, не паражэнне,
а толькі перамога над сабой.

●

Падхопіць, загайдае плынь
ракі...
І ўбачу я тваё аблічча новае,—
дзе пад сузор'ем Белае Рукі
струменіцца сяйво
маладзіковае.
У калыханні белакронных дрэў,
У гуках і дыханні ночы белае
адчуем мы, што свет
памаладзеў,
што зніклі ўсе пачуцці
агрубелыя...

# РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ РЭЖЫСЁРАЎ

**адбылася днямі ў сталіцы Беларусі. На яе з'ехаліся ўсе рэжысёры тэатраў рэспублікі.**

**Канферэнцыю адкрыў міністр культуры БССР Ю. Міхневіч. Ён гаварыў пра вялікую адказнасць дзеячоў мастацтва перад партыяй і народам. Рэжысёр-асоба, рэжысёр-індывідуальнасць, які мае сваё бачанне і выразную ідэйную і мастацкую пазіцыю здольны на смелы пошук, — такім павінен быць чалавек, што ўзначальвае тэатр. І тады кожны калектыў будзе мець сваё непаўторнае аблічча, афішы не будуць дубліраваць адна адну, як гэта пакуль што здараецца ў абласных тэатрах. У нас ёсць сапраўдныя рэжысёрскія ўдачы, сказаў Ю. Міхневіч, якія па вартасцях былі ацэнены грамадскасцю і крытыкай. Але далёка яшчэ не поўна адлюстраваны ў спектаклях велічныя гераічныя здзяйсненні савецкага народа. Стварыць паўнакроўны вобраз нашага сучасніка, паказаць яго шматграннае жыццё, стваральную працу, шырокія далягляды — вось першаступенная задача тэатраў.**

**На канферэнцыі ўзнімаліся пытанні, што асабліва хвалююць сёння тэатр: рэжысёрская задума і яе ўвасабленне, пластычны вобраз спектакля, скразное дзеянне і звышзадача спектакля, работа з акцёрам, пошукі сучаснага стылю і інш. З цікавымі змястоўнымі прамовамі выступілі галоўны рэжысёр тэатра імя Коласа С. Казіміроўскі, рэжысёр тэатра імя Купалы В. Раеўскі, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя Горкага Ф. Шэйн, старшы выкладчык Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута А. Даброцін, галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску В. Каралько, загадчык кафедры акцёрскага майстэрства тэатральна-мастацкага інстытута Ул. Маланкін, прафесар школы-студыі МХАТ СССР В. Манюкоў і іншыя.**

**Падрабязную справаздачу з Рэспубліканскай канферэнцыі рэжысёраў чытайце ў наступным нумары нашай газеты.**

# ПРАЦЯГ БУДЗЕ?..

**Вечар творчай справаздачы маладых акцёраў Рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя ЛКСМБ**

*Гэтае прадстаўленне ў тэатры юнага гледача было не зусім звычайным. Яно пачалося вясёлай песенькай-уступам усіх яго ўдзельнікаў. Дэманстравала сваё майстэрства моладзь тэатра. Адзін за адным былі паказаны ўрыўкі са спектакляў «Прыгоды Бураціна», «Дай вады, калодзеж!», «Пэпі — Доўгая панчоха», «Несцерка», «Італьянская трагедыя» і іншых. Спачатку празмерна хвалюючыся і таму крыху скавана, потым «разыграўшыся» як след, артысты закончылі вечар вясёлай і тэмпераментнай сцэнай з камедыі «Абрабаванне апоўначы».*

*Наш карэспандэнт узяў невялічкія інтэрв'ю ў прысутных у зале дзеячоў мастацтва.*

*— Л. Тарасава, якая падрыхтавала сённяшні вечар, яшчэ раз паказала сябе здольным рэжысёрам,—сказаў старшыня тэатральнай секцыі Дома мастацтваў народны артыст СССР З. Стома. — Прадстаўленне атрымалася цікавым, цэласным. Я думаю, яно нават мае права на далейшае самастойнае жыццё.*

*— Мне спадабаліся Ю. Палосіна, К. Доўнар, М. Патапчук, В. Турмовіч, Б. Піскун, Л. Улашчанка, А. Кашпераў, Ул. Макараў і іншыя, — гаворыць заслужаная артыстка БССР Л. Шынко. — Зрэшты, тут цяжка вызначыць самых лепшых, таму што мы глядзелі не спектакль, а своеасаблівы канцэрт, дзе кожны мог праявіцца калі не зусім поўна, то дастаткова цікава.*

*Рэжысёр Акадэмічнага тэатра Янкі Купалы Б. Луцэнка зазначыў, што такія вечары могуць стаць арыгінальнай формай знаёмства з маладымі артыстамі розных тэатраў.*

*— Хацелася б, каб у будучым, — сказаў ён, — у такія канцэрты ўключаліся і самастойныя работы акцёраў — іх заяўкі на ролі, пра якія яны мараць.*

Барыс БУР'ЯН

# ВОСТРАЎ БЯССЕМЕНАВЫХ

**«МЯШЧАНЕ» М. ГОРКАГА Ў БРЭСЦКІМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ**

Спектакль адбыўся. П'еса, якая мае сямідзесяцігадовую гісторыю тэатральных трактовак, зноў набыла сцэнічнае жыццё ў Брэсце. Тэатр звярнуўся да «Мяшчан» трэці раз: гэтая назва, дарэчы, была адной з першых на афішы калектыву, калі ён яшчэ пераносіў свае студэнцкія работы на прафесійныя падмосткі. Мабыць, і трупа, і яе мастацкае кіраўніцтва часамі адчуваюць патрэбу зноў і зноў уваходзіць у «свет Горкага», дзе так многа творчай спажывы для рэжысёрскіх шуканняў, для акцёрскага роздуму і паглыблення ў складаную чалавечую натуру. І на гэты раз пастаноўшчык Г. Волкаў таксама, на маю думку, ставіў перад тэатрам вельмі важныя педагагічныя мэты. Яны захапілі ўдзельнікаў спектакля. Большасць выканаўцаў роляў усімі сваімі паводзінамі пераконвае нас у праўдзе паказанага імі жыцця— на сцэне ёсць «дом Бяссеменавых».

Які ж ён у Брэсце?

Традыцыйны.

**Я нават сказаў бы, што ў рэжысуры Г. Волкава заўважаеш нешта дэманстрацыйна агульнапрынятае. Пачынаючы з падкрэсленай павагі да горкаўскіх рэмарак: калі аўтар падказаў, каб на сцэне быў цяжкі і няўклюдны буфет, то мы яго і бачым — цяжкі і няўклюдны, — як бачым і прадугледжаныя рэмаркай філадэндроны, стары і хворы гадзіннік у футарале чырвонага дрэва, куфар ля самай рампы (там, дзе павінна ўгадвацца «чацвёртая сцяна» бяссеменаўскага дома)... Разам з мастаком Ю. Ігліным і выканаўцамі роляў рэжысёр стварае надзвычай сумную і па-свойму ўстойлівую атмасферу дома, дзе гадамі, калі толькі не стагоддзямі, усё мае сваё месца і свой час, а жыццё зводзілася да «абрастання» рэчаў новымі рэчамі і людзей новымі сямейнымі сувязямі.**

**Зводзілася... Калісьці раней. А цяпер не тое. Чыгуначны машыніст Ніл і часовы жыхар у тутэйшым доме Цецераў парушылі, здавалася б, на вякі ўсталяваны парадак. Першы —учынкам: ён узяў за жонку Полю Пярчыхіну замест наканаванай яму галавой сямейства Таццяны Бяссеменавай. Другі — словамі, вострымі, як лязо брытвы, і гарачымі ад сваёй бязлітаснай праўдзівасці...**

**Даруйце, я пачынаю пераказваць змест хрэстаматыйна вядомай п'есы.**

Так пастаўлены і спектакль. Без адкрыццяў і наватый... Ён дае яшчэ адну сцэнічную версію драме, якую амаль заўсёды тэатры чыталі і чытаюць так, як яна была прачытана ўпершыню Маскоўскім Мастацкім. Праўда, Г. Волкаў, відаць, знаёмы і з таўстаногаўскай трактоўкай «Мяшчан». Больш таго, ён падзяляе адносіны да п'есы і яе герояў ленінградскага рэжысёра-эксперыментатара. Таму ў зусім прывычны малюнак спектакля ў Брэсце ўнесены асобныя мастацкія акцэнты, якіх раней, да спектакля Г. Таўстаногава, тэатры пазбягалі наогул або ўводзілі вельмі асцярожна. Гаворка ідзе пра трактоўку вобразаў Ніла і старога Бяссеменава.

Артыст І. Мацкевіч у адпаведнасці з таўстаногаўскім намерам, прынятым і Г. Волкавым, як бы «здымае» з Ніла німб рамантычнага героя, ён і не збіраецца паказваць яго хоць бы трошкі падобным да ідэалу Полі, запазычанага ёю са сцэны мясцовага тэатра ў маленькім правінцыяльным горадзе, да дона Сезара дэ Басана. Яму даражэй быць Нілам зусім зямным: стомленым пасля чарговага рэйса на паравозе, галодным, няўрымслівым у сцвярджэнні свайго права быць незалежным ад Бяссеменавых і іх жыццёвага статута. Такі гэты персанаж і атрымаўся на сцэне—дзёрзка малады і здаровы целам і духам, ён ужо, як кажуць, фактам свайго існавання ў доме перакананага ўласніка ўзрывае спакой прыцішаных і насцярожаных сцен таго дома. Тэатр зарок не дае «мітынгаваць» Нілу, калі з яго вуснаў зрываюцца вядомыя афарызмы —«Правы не даюць, правы бяруць» або «Гаспадар той, хто працуе», бо гэты Ніл не ўпершыню, відаць, такім чынам абражае Бяссеменава, выклікаючы яго на спрэчку і нават на сварку.

Праўда, артыст і рэжысёр, знайшоўшы ўнутранае апраўданне псіхалагічным імпульсам героя, раптам нібы забываюцца пра сваю трактоўку, і тады І. Мацкевіч усё ж пачынае адчуваць пад сабой прыступкі трыбуны і гаворыць не так партнёрам, як нам, гледачам, пра гатоўнасць яго Ніла ўшчэнт разбіць «мудрую» мараль бяссеменаўшчыны: «Няма такога раскладу руху, які б не змяняўся!», «Я ведаю ... што я не асілак, а проста— сумленны, здаровы чалавек, і я ўсё-такі кажу: нічога! Наша возьме!..».

**Застаецца ўражанне дваістае: быццам тэатр і спрабуе прытрымлівацца «таўстаногаўскай» трактоўкі Ніла, але акцёр здольны і на зусім адваротны паказ гэтага няпростага і ў аўтарскай задуме вобраза. Мабыць, І. Мацкевіч яшчэ прыслухоўваецца да самога сябе, імкнучыся адчуць натуральную плынь эмоцый і роздуму героя ў прапанаваным яму рэжысурай малюнку ролі. Ці не адсюль у яго Ніле ёсць рысы наогул бесцырымоннага чалавека, які ніколі і не шанаваў свайго выхавацеля Васіля Васілевіча Бяссеменава? Ці не таму артыст так часта бывае падкрэслена «нахабны» ў дыялогах з іншымі персанажамі спектакля? Спалучэнне традыцыйна-горкаўскага і нават хрэстаматыйнага Ніла з Нілам «ад Таўстаногава» пакуль што ў брэсцкім спектаклі не злілося ў адзіна магчымы ў гэтым спектаклі на гэтай сцэне тэатральны вобраз.**

Кожны выхад на плацдарм бітвы Васіля Васілевіча — гэта і сапраўды працяг нейкага блукання па пакутах. Так іграе А. Логінаў. Зноў жа мы здагадваемся, што без уплыву ленінградскіх «Мяшчан» у пастаноўцы Г. Таўстаногава не абышлося. І ў Брэсце Бяссеменаў пакараны за сваю так паслядоўна і жорстка праводзімую філасофію зацятага мяшчанства. Калі ж дадаць да гэтага бліскучае з пункту гледжання акцёрскага мастацтва выкананне ролі Акуліны Іванаўны Бяссеменавай артысткай З. Курдзянок, якая ў кожную хвіліну сцэнічнага жыцця бывае то святлом, то ценем Бяссеменава-старэйшага, дык стане відавочным, што тэатр і ў інтэрпрэтацыі галоўнага аб'екта выкрыцця схіляўся да «таўстаногаўскай» варыяцыі. Зразумейце, маўляў, што і ён, стары Бяссеменаў, таксама чалавек, што і ў яго ёсць непахісныя перакананні, і ён шчыра плача, калі бачыць, як наладжаны рытм і ход жыцця разбураецца родным сынам, выхаванцам, нахлебнікам!..

Штосьці блізкае да такой дваістасці назіраеш і ў Цецераве, якога іграе, пераступіўшы ў новае акцёрскае амплуа героя-рэзанёра, Ю. Уласаў. Ён пераконвае нас тады, калі гэты цвярозы скептык жыве каханнем да Полі, калі цягнецца да вясёлага аптымізму моладзі,—тут артыст вымаўляе нават афарыстычна напісаныя М. Горкім рэплікі нібы яны толькі што бліснулі ў яго розуме. Ды тэатр яшчэ спрабуе паказаць нам у Цецераве сапраўднага «пеўчага» шаляпінскага размаху, асабліва калі ён пад чаркай. І мы аддаём належнае майстэрству Ю. Уласава, але шкадуем, што гэтае майстэрства застаецца бачным: намаганне выканаўцы быць вакальна выразным надае гнеўным філіпікам Цецерава супроць бяссеменаўшчыны дэкламацыйнасць, асабліва ў фінале, дзе артыст амаль «шэкспірызуе» героя. Можа ў гэтым вінавата страчанае Ю. Уласавым, як і І. Мацкевічам, адчуванне перспектывы ролі, якая вызначаецца не ад аднаго кавалка тэксту да другога (у чыста педагагічным рэжысёрскім аналізе), а з таго, што герой пра далейшы свой лёс нічога не ведае, калі выканаўца ведае ўсё: са «звышзадачы»...

Заўважу, што нават артысту, які выдатна і арганічна жыве ў гэтым і ў тым эпізодзе, а потым такіх эпізодаў у яго на працягу спектакля збіраецца многа, далёка не заўсёды ўдаецца сабраць іх у нешта адзінае. Без рэжысёрскай карэктуры тут не абысціся!

Калі я глядзеў «Мяшчан» у Брэсце, у мяне было такое ўражанне, што Г. Волкаў як рэжысёр не асмельваўся ўносіць папраўкі ў сцэнічную партытуру ролі Бяссеменава, распрацаваную, магчыма, ім жа сумесна з акцёрам.

**Што ж, спачування такі Бяссеменаў не абуджае. Але і нянавісці таксама. Тэатр нібы запрашае нас зразумець і тых, і другіх у сутычках. Канфлікт здрабняецца, усе ціхія і ўсе адкрытыя прыгоды жыхароў дома Бяссеменавых набываюць гучанне звычайнай сваркі паміж бацькамі (Бяссеменавы) і дзецьмі (Ніл і яго асяроддзе). І пачынаеш гартаць зусім знаёмую гісторыю, дзе прыватныя падзеі так і застаюцца прыватнымі. Дом такіх Бяссеменавых выглядае востравам, на якім усталявалася сваё жыццё, хай сабе з гвалтоўнымі скандаламі, са слоўнымі паядынкамі, але ўсё ж родны і дарагі ўсім, хто знайшоў на ім сабе ўтульны або няўтульны куток.**

Паўтараю, рэжысёр Г. Волкаў знайшоў унутраныя, духоўныя сувязі паміж усімі дзейнымі асобамі. Напрыклад, і па мізансцэнах, і па эмацыянальнай афарбоўцы Пётр Бяссеменаў (артыст М. Рэмізаў)—фігура хісткая; ён і кляне «востраў», на якім жыве, і вырвацца адсюль не можа. У вуснах выканаўцы ролі выказванні героя пра агідныя для яго грамадскія абавязкі і пра той жа абрыдлы буфет у доме гучаць аднолькава— на мяжы істэрычнага выбуху. Ён мітусіцца, лётае па ўсіх пакоях дома больш за ўсіх іншых. І вельмі часта яго рука трапляе на плячо бацькі. Пётр крыўдуе на Васіля Васілевіча, калі той вярзе старасвеччыну, але ён і шкадуе, спачувае старому. Паміж імі нітка, якая не абарвецца ніколі. Гэта М. Рэмізаў іграе дакладна. Калі сочыш за тым, як Алена Крыўцова «адбірае» такога Пятра ад Бяссеменава, бачыш, што і ў сферы інтымнага жыцця ён капітулянт, схільны хаваць істоту свайго характару за красамоўствам: Бяссеменаў, Бяссеменаў...

Па-творчы сталее маладая артыстка Т. Волкава, і гэта заўважаеш у тым, як яна арганічна жыве ў ролі Таццяны Бяссеменавай, асабліва ў першай частцы спектакля. Верыш, што яна школьная настаўніца, якой служба не дае задавальнення. Яна сапраўды кахае Ніла, спадзеючыся, што гэтае каханне выведзе яе з «вострава Бяссеменава» або пераменіць яго статут.

# ГЭТА ТАКСАМА ПРЫЗВАННЕ

У гэтага каржакаватага, круглавідага чалавека, загадчыка трупы Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра, Міхаіла Фёдаравіча Жука былі, як ва ўсіх людзей на свеце, свае радасці і няўдачы ў рабоце. Але куды б яго ні кідаў лёс, ён заўсёды захоўваў трапяткую любоў да сцэны.

...Позняя восень 1942 года. Вялікія, напаўразваленыя фашысцкімі бомбамі і снарадамі складскія памяшканні на беразе Волгі. Тут бывалыя воіны Сталінградскага фронту сустракалі папаўненне з Сібіры. Для іх адразу ж быў арганізаваны канцэрт самадзейнага ансамбля «Усмешка». На пустых патронных скрынках стаяў галоўны герой праграмы — Валя Баранкін. Пад дружны смех ён расказваў аб сваіх шпітальных прыгодах. У гэтай ролі зухаватага вясёлага хлопца выступаў старшы сержант Міхаіл Жук.

За доўгія гады Вялікай Айчыннай вайны Міхаіл Жук многа разоў удзельнічаў у кровапралітных баях з фашыстамі. Бачыў смерць і гераічныя подзвігі сваіх сяброў-аднапалчан, пад варожым абстрэлам вёў антыфашысцкія перадачы і прымаў актыўны ўдзел у армейскай мастацкай самадзейнасці.

Пасля вайны Міхаіл Жук вярнуўся ў родны Бабруйск, дзе пачынаў сцэнічную дзейнасць. А хутка пераехаў у Гродна ў толькі што ўтвораны абласны драматычны тэатр. Тут ён працуе па сённяшні дзень. Роўна 25 гадоў.

Тут раскрыліся яго арганізатарскія здольнасці — спачатку памочніка рэжысёра, а пазней — загадчыка трупы. А быць загадчыкам трупы — справа нялёгкая: трэба планаваць работу акцёраў, кантраляваць падрыхтоўку тэхнічных цэхаў да рэпетыцый і спектакляў, весці ўлік загрузкі творчага складу, ды і наогул быць гатовым да любых нечаканасцей, якіх так многа ў жыцці тэатра. Часта даводзіцца выконваць абавязкі памочніка рэжысёра на выязных спектаклях, дапамагаць рабочым сцэны, кантраляваць рэквізітараў, электрыкаў, пераўвасабляцца ў адміністратара.

Але нягледзячы на загружанасць, Міхаіл Жук выступае і як акцёр. Гледачы Гродна і вобласці памятаюць яго ў ролях: Татарына ў «На дне» М. Горкага, дэмабілізаванага воіна Агарнова ў

# ВУЧОНЫ, ДАРАДЧЫК, ДРУГ

## АЛЯКСАНДРУ АЎЧАРЭНКУ — 50



IМЯ Аляксандра Іванавіча Аўчарэнкі шырока вядома ў савецкай шматнацыянальнай літаратурнай навуцы. І не толькі ў савецкай, але і ў сусветнай. Яго кнігі і артыкулы ў абарону ленінскага прынцыпу партыйнасці ў літаратуры, баявітасць і непрымірымасць у барацьбе за ўсталяванне сацыялістычнага рэалізму, супраць рознага роду непрыяцеляў і адкрытых ворагаў нашай літаратуры — заваявалі яму папулярнасць сярод крытыкаў і літаратуразнаўцаў многіх краін зямнога шара. На берагах Місісіпі, Рэйна і Тэмзы, ва універсітэтах і ў коледжах ЗША, ФРГ, Японіі, Англіі і іншых краін добра ведаюць прафесара А. Аўчарэнку, як дастойнага прадстаўніка Саюза пісьменнікаў СССР, высока эрудзіраванага спецыяліста, страснага публіцыста і палеміста.

Шырокае кола літаратурных і грамадскіх інтарэсаў А. Аўчарэнкі. У пастаянным полі яго чулага зроку знаходзяцца і руская класічная і сучасная літаратура, і літаратуры народаў СССР, і літаратуры зарубежных краін ва ўсёй іх жанравай разнастайнасці. Але, бадай, больш за ўсё за апошнія дваццаць гадоў ён зрабіў для вывучэння творчай спадчыны і пашырэння найбагацейшага вопыту вялікага рускага пісьменніка Максіма Горкага. Пяру А. Аўчарэнкі належаць кнігі «Аб станоўчым героі ў творчасці М. Горкага», «Публіцыстыка М. Горкага», «Раман-эпапея М. Горкага «Жыццё Кліма Самгіна», «М. Горкі і літаратурныя пошукі XX стагоддзя» і іншыя, якія сталі настольнымі дапаможнікамі настаўнікаў і студэнтаў, здабыткам шырокага кола сапраўдных знаўцаў таленту першага мастака сацыялістычнай Расіі.

На Украіне добра ведаюць артыкулы А. Аўчарэнкі аб класічнай і сучаснай украінскай літаратуры, аб творах М. Стэльмаха, А. Малышкі, М. Заруднага.

З асаблівым задавальненнем мне хацелася б адзначыць заслугі А. Аўчарэнкі перад беларускай літаратурай. Вось ужо некалькі гадоў ён пільна сочыць за развіццём беларускай прозы, выступае з артыкуламі і рэцэнзіямі аб творчасці беларусаў у цэнтральным друку, на пісьменніцкіх сходах і ў Савеце па беларускай літаратуры, якім ён кіруе з 1969 года, пасля смерці Я. Мазалькова.

Думкі і выказванні А. Аўчарэнкі аб творчасці І. Шамякіна, І. Мележа, І. Навуменкі, В. Быкава, М. Лобана, Я. Брыля, У. Карпава, А. Кулакоўскага вельмі змястоўныя, глыбокія і аб'ектыўныя, яны выказаны з вялікім разуменнем працэсаў, якія адбываюцца цяпер у беларускай прозе, з пачуццём таварыскай павагі і з належнай мерай прафесійнай патрабавальнасці да кожнага мастака. Плённа дапамагае А. Аўчарэнка і маладым пісьменнікам. У пэўнай меры менавіта яму мы абавязаны тым, што аповесць «Тартак» Івана Пташнікава і раман «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, лепшыя творы апошніх гадоў аб Вялікай Айчыннай вайне на тэрыторыі Беларусі, своечасова, зараз жа пасля публікацыі на роднай мове былі падтрыманы А. Аўчарэнкам на пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры ў снежні 1970 г. і неўзабаве надрукаваны ў часопісах «Новый мир» і «Дружба народов». Гэтаму трэба толькі радавацца.

Зусім нядаўна ў выдавецтве Маскоўскага універсітэта выйшла невялікая, але змястоўная кніга А. Аўчарэнкі «Сучасны беларускі раман». У ёй ён піша: «Дзесяць гадоў назад беларуская проза магутным рыўком выйшла на перадавы рубеж у літаратуры. У апошнія пяць гадоў яна замацавала гэту перамогу. Цяпер ёй трэба будзе зноў рушыць наперад. Для гэтага патрабуецца цвяроза ацаніць свае сілы і магчымасці».

Праўдзіва і правільна сказана! Так аб вялікай літаратуры можа гаварыць толькі яе вялікі друг і дарадчык, патрабавальны майстар крытычнага аналізу.

У дзень паўвекавога юбілею Аляксандра Іванавіча Аўчарэнкі мы, яго сябры і таварышы па пяры, ад душы жадаем яму шчаслівага даўгалецця, такой жа наступальнасці, баявітасці і пільнасці ў абароне нашых агульных ідэалаў, новых творчых здзяйсненняў на карысць усёй нашай савецкай шматнацыянальнай літаратуры.

**Міхась ГАРБАЧОЎ.**

# З КАГОРТЫ СІНЯБЛУЗНІКАЎ

У час свайго адпачынку Аляксандр Майсеевіч Гурэвіч наведаў мясціны Курганскай вобласці, дзе ў канцы дваццатых—пачатку трыццатых гадоў прайшло яго юнацтва. Ён блукаў па новых вуліцах Кургана, праз адраснае бюро шукаў старых знаёмых. Пацягнула ў краязнаўчы музей. І там раптам прачытаў: «Заснавальнікі сіняблузнікаў у нашым горадзе». Тут жа віселі партрэты Валянціна Коржава, Міхаіла Пугачова, Марыі Галавіной, Аляксандра Гурэвіча.

— А вы ведаеце пра далейшы лёс сіняблузнікаў? — спытаў Гурэвіч у дырэктара музея.

— Толькі пра некаторых.

— Пра Сашку Гурэвіча не чулі?

— Не.

Усхваляваны Аляксандр Майсеевіч дастаў з кішэні пашпарт.

— Дык вы і ёсць Сашка-музыкант?!

Так уваскрэсла ў памяці далёкае мінулае, усё, што прывяло сённяшняга лаўрэата Усесаюзнага фестывалю народных тэатраў Аляксандра Гурэвіча да самадзейнай сцэны.

Было гэта ў 1924 годзе. Сын местачковага каваля Сашка Гурэвіч сеў за школьную парту. Настаўніца Марфа Трафімаўна Баркоўская ў хударлявым хлапчуку ўбачыла здольнага вучня. Ён не толькі добра вучыўся, але меў і артыстычныя здольнасці. Часам на перапынку так удала «пакажа» папа цірабіна, што ўсе аж жываты надрывалі ад рогату. І вось, калі школа рыхтавала вечар, прысвечаны васьмідзесяцігоддзю з дня смерці Івана Андрэевіча Крылова, Марфа Трафімаўна папрасіла Сашу:

— Хачу, каб клас паставіў інсцэніроўку па байцы «Квартэт». Малпа, Асёл, Казёл і Касалапы Мішка ёсць. А Салаўя не падбяру. Патрэбен пявучы тонкі голас. Ці не сыграеш ты?..

З таго часу і звязаў Саша Гурэвіч свой лёс з самадзейнай сцэнай. Праз год-два навучыўся іграць на піяніна. Сам, без настаўніка. І дапамагла тут выпадковасць. У мястэчку спыніўся атрад чырвонаармейцаў. Салдаты ставілі канцэрт. Саша, не бачачы з-за дарослых сцэны, стараўся хоць адным вухам улавіць гукі дзіўнага інструмента, які чырвонаармейцы прывезлі з сабой. Гукі чароўныя, пявучыя. Але як яны паяўляюцца?..

Усю ноч не спаў. Думаў: «Што за музыку прывезлі салдаты?»

Раніцай, калі яшчэ ўсе спалі, ён залез у клуб, на дыбачках падышоў да дзіўнай скрынкі. Асцярожна адчыніў вечка — са скрынкі вышчэрваліся даўжэзныя жоўтыя «зубы». Дакрануўся да гэтых «зубоў» — скрыня зайграла.

Чырвонаармейцы пайшлі далей, а піяніна так і засталося ў вёсцы. З той раніцы Саша кожны дзень наведваў клуб. Праз паўгода ён ужо ў дзве рукі падыгрываў самадзейным артыстам.

Праз два гады Сашавы бацькі пераехалі з вёскі Расосна ў Курган. Доўга хлапчук не мог прывыкнуць да новага месца. Змаркоціўся па сцэне. Але ў горадзе пайшлі чуткі пра сіняблузнікаў. З'явілася і аб'ява: «Адкрыты набор у камсамольскі калектыў сіняблузнікаў «Гайка». Звяртацца ў клуб прафсаюза савецкіх гандлёвых служачых».

Саша пайшоў у клуб. Там яго агледзелі, сказалі:

— Малы. Каб хоць іграць на чым-небудзь умеў...

— Я ўмею. На піяніна.

— А ну паспрабуй.

Адшукалі стары разбіты інструмент. Паслухалі. Прынялі. Але паслалі вучыцца ў прыватную музычную школу Алены Сцяпанаўны Ціхан. За год Гурэвіч засвоіў асновы музычнай граматы— вярнуўся ў клуб спецыялістам. У студзені 1928 года курганцы чыталі выпушчаную друкарскім спосабам афішу: «Слухай, член прафсаюза, у суботу выступае сіняя блуза «Гайка». Камсамольскі калектыў прафклуба саўгандальслужачых пад кіраўніцтвам В. Коржава ў складзе чатырнаццаці сіняблузнікаў». (Далей ішоў пералік прозвішчаў, у тым ліку і А. Гурэвіча).

Паведамлялася праграма. Унізе — лозунг: «Пока старый быт не умер, синяя блуза, расти свой юмор». Пачынаючы з дзевятага нумара афішы (люты 1928 г.) даваўся допіс: «Ля раяля А. Гурэвіч».

Сіняблузнікі ставілі канцэрты ў Кургане, сёлах. У разгары была калектывізацыя, таму тэме нараджэння новай вёскі, тэме барацьбы з кулаком прысвячаліся многія нумары — прыпеўкі, інтэрмедыі, песні. У раздзеле «Рыжская Русь» давалі бой белаэмігрантам. У 1932 г. Аляксандр Майсеевіч вярнуўся ў Беларусь. І дзе б ён ні быў, ніколі не пакідаў сцэны. Прайшлі гады. Гурэвіча афармілі на пенсію. Але не захацелася яму кідаць працу. Праўда, ідучы ў 1962 г. на Мінскі трактарны, даў сабе і жонцы Ганне Аляксандраўне зарок:

— Не буду больш на сцэну выходзіць — гады не тыя.

Сказаў — і не выцярпеў. Аднойчы, ідучы дадому, убачыў аб'яву: «Пры кавальскім корпусе арганізуецца гурток мастацкай самадзейнасці...» Сэрца страпянулася. Вярнуўся назад.

— Запішыце і мяне,— папрасіў ён камсорга Юру Званарова.

— А вы раней з якім-небудзь нумарам выступалі? — спытаў Юра. Замест адказу Аляксандр Майсеевіч узяў у рукі акардэон і зайграў папуры на тэмы беларускіх народных песень. Потым пачаў «паказваць» дзеда Нічыпара з аперэты Аляксандрава «Вяселле ў Малінаўцы».

—О, такія нам патрэбны, — узрадаваўся Званароў.

Пад кіраўніцтвам Аляксандра Майсеевіча быў пастаўлен урывак з «Вяселля ў Малінаўцы». Сам выступаў у ролі дзеда Нічыпара. У канцэрце акампаніраваў на баяне салістам і хору.

Артыст Аляксей Мікалаевіч Бяляеў прыйшоў у калектыў у 1964 годзе. Пры ім як галоўным рэжысёры Гурэвіч асвоіў ролю ўрача Логінава ў спектаклі па п'есе Б. Гарбатава «Юнацтва бацькоў».

У 1967 годзе на Усесаюзным фестывалі, прысвечаным 50-годдзю Савецкай улады, народны тэатр МТЗ выступіў са спектаклем па п'есе Ю. Прынцава «Дзевятая сімфонія», за што яму было прысвоена званне лаўрэата. Дыплом лаўрэата быў уручан і А. Гурэвічу — за выкананне ролі ўрача Паўлоўскага.

Званне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу, прысвечанага 50-годдзю БССР, Аляксандр Майсеевіч атрымаў за ўдзел у спектаклі па п'есе П. Васілеўскага «Год 1917» — тады Гурэвіч іграў ролю фабрыканта Мысніцкага.

Апроч удзелу ў спектаклях, Гурэвіч з'яўляецца пастаянным канцэртмайстрам у канцэртах самадзейных артыстаў трактарнага завода. І дзе б ён ні выступаў, яго сустракаюць з цеплынёй і сардэчнасцю. Тэрміст кавальскага цэха Мінскага трактарнага завода, былы сіняблузнік Аляксандр Майсеевіч Гурэвіч застаецца ў страі.

**Б. МАНЦЭВІЧ.**

# СЛАЎНАМУ ЗЕМЛЯКУ



Невысокі даўгі драўляны будынак. Фарбаваныя сцены, ганак. Сёння тут размяшчаецца Радашковіцкая бальніца. Чатыры дзесяцігоддзі таму назад у гэтым доме збіраліся людзі, якія паставілі мэтай свайго жыцця вызваленне роднага краю ад панскага панавання, ад нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту. Людзей гэтых аб'ядноўвала палымяная воля і асабістая абаяльнасць гаспадара дома — вучонага-лінгвіста, перакладчыка, які ведаў 16 моваў, грамадскага дзеяча Браніслава Тарашкевіча.

21 студзеня сюды сабраліся жыхары Радашковіч, каб адкрыць мемарыяльную дошку на доме, дзе восем год жыў і працаваў іх славуты зямляк. Мітынг адкрыў сакратар РК КПБ В. Ляшковіч. З цёплымі словамі пра Браніслава Тарашкевіча выступілі ўрач К. Васюк і дырэктар сярэдняй школы Я. Ермаковіч. Сваімі ўспамінамі пра творчую і грамадскую дзейнасць выдатнага вучонага падзялілася былая сяброўка яго жыцця Вера Андрэеўна.

Спадае белая заслона, мемарыяльная дошка адкрыта.

**● ПАДЗЕІ ● ФАКТЫ ● НАВІНЫ ●**

□ У Жлобіне па ініцыятыве райкома камсамола арганізаваны клуб творчай моладзі «Маяк». На яго пасяджэннях настаўнікі, медыкі, культработнікі, інжынеры праводзяць конкурсы на лепшага спевака, чытальніка, танцора.

**М. Янчанка.**

□ Творчы вечар народнага артыста СССР Я. Палосіна адбыўся ў клубе санаторыя «Нясвіж». Артыст выступіў з чытаннем твораў М. Шолахава і А. Твардоўскага.

**П. Бараноўскі.**

□ Народны драматычны калектыў Растоўскага раённага дома культуры Яраслаўскай вобласці рыхтуе да 50-годдзя СССР спектакль па п'есе Андрэя Макаёнка «Трыбунал».

**А. Стадуб.**

□ У Віцебскай абласной бібліятэцы імя Леніна экспануюцца выстаўкі «У сузор'і савецкіх рэспублік», «Вершы беларускіх паэтаў і пісьменнікаў», «Песні народаў СССР».

**М. Фёдараў.**

НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

# З ТВОРЧЫМ ЗАПАЛАМ

Карабель адправіўся ў плаванне вакол свету. Ён перасякае моры і акіяны, заходзіць у далёкія порты. На ім ёсць і матросы, і пасажыры. Але гэта незвычайны карабель. Яго груз — песні. І плыве ён не па хвалях мора, а па хвалях эфіру. А яго матросы і пасажыры — удзельнікі розных мастацкіх калектываў Гомельшчыны. Так пабудавана адна з перадач маладзёжнай рэдакцыі Гомельскай студыі тэлебачання, у якой прагучалі песні народаў свету.

Усе перадачы рэдакцыі (акрамя спартыўных) аб'яднаны ў цыкл «Неспакойныя сэрцы». Тут і рэпартажы з новабудоўляў вобласці і ўслаўленне пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва, ваенна - патрыятычныя перадачы і абмеркаванне студэнцкіх навуковых работ, дыспуты і разважанні пра самае галоўнае ў жыцці. Рэдакцыя арганізуе і літаратурныя перадачы — інсцэніроўкі апавяданняў, дзе закранаюцца хвалюючыя, надзённыя маральна-этычныя пытанні.

Вельмі папулярнымі ў вобласці сталі арганізаваныя рэдакцыяй турніры-спаборніцтвы (пазней ініцыятыву гамяльчан падхапіла і маладзёжная рэдакцыя рэспубліканскага тэлебачання). Спаборніцтвы самыя розныя: аратых і паэтаў, шафёраў і кінааматараў і нават жартаўлівы конкурс жаніхоў і нявест, на якім адзнаку за сервіроўку стала і якасць прыгатаваных страў ставіла аўтарытэтнае журы —муж і жонка, якія адсвяткавалі залатое вяселле.

# А КАРЫСЦЬ МАГЛА Б БЫЦЬ БОЛЬШАЯ

ЛЕТАСЬ ў выдавецтве «Народная асвета» выйшаў школьны гістарычны слоўнік «Тэрміны, імёны, даты». Задача яго, як сцвярджаецца ў слове «Да чытача», дапамагчы «вучням лепш засвоіць асноўныя паняцці, імёны і даты, што вывучаюцца на ўроках гісторыі ў V—X класах сярэдняй школы». Складаецца слоўнік з трох раздзелаў. У першым растлумачваецца 440 гістарычных тэрмінаў, з якімі сутыкаюцца вучні пры вывучэнні школьнага курсу гісторыі. У другім раздзеле сабраны кароткія звесткі пра дзяржаўных, партыйных, ваенных дзеячоў, вядомых людзей культуры, навукі і мастацтва розных народаў. Трэці раздзел складаюць храналагічныя і сінхранічныя табліцы важнейшых падзей сусветнай гісторыі.

Такі слоўнік у нашай рэспубліцы выдаецца ўпершыню, і таму яго выхад у свет трэба толькі вітаць. На вялікі жаль, ён выклікае шэраг сур'ёзных крытычных заўваг, якія тычацца ўсіх трох раздзелаў, а найперш—другога.

На тытульным лісце кнігі стаіць прозвішча яе аўтара: Ю. М. Сувораў (менавіта аўтара, а не складальніка). Значыць, слоўнік трэба разглядаць як самастойную, арыгінальную навуковую працу? Але ж нават пры беглым азнаямленні з кнігай заўважаеш, што большасць артыкулаў першага раздзела — гэта вытрымкі з артыкулаў «Малой Советской Энциклопедии» и «Большой Советской Энциклопедии», перакладзеныя (дарэчы, не заўсёды пісьменна) на беларускую мову. Нагадаем некалькі прыкладаў.

«АБ'ЯДНАНЫЯ НАЦЫІ — тэрмін, якім прынята было называць дзяржавы, што ў перыяд другой сусветнай вайны 1939—1945 гг. уваходзілі ў антыфашысцкую кааліцыю і падрыхтавалі стварэнне ў 1945 г. Арганізацыі Аб'яднаных Нацый (ААН)».

Гэты артыкул без аніякіх змен узяты з «МСЭ».

Ну, а як жа паступае аўтар з больш шырокімі артыкуламі і тлумачэннямі? Тут ён карыстаецца выбарачнымі сказамі з тых жа энцыклапедый. Чытаем, напрыклад:

«ГУСІТЫ—удзельнікі антыфеадальнага, нацыянальна-вызваленчага і антыкаталіцкага руху ў Чэхіі (першая палавіна XV ст.). Назву атрымалі па імю Яна Гуса. Унутры гусіцкага руху склаліся дзве плыні: умераная (чашнікі) і радыкальная (табарыты). Гусіцкі рух прывёў да аслаблення пазіцый каталіцкай царквы і нямецкіх феадалаў у Чэхіі, аказаў вялікі ўплыў на наступную гісторыю чэшскага народа, садзейнічаў распаўсюджванню рэфармацыйных ідэй у Еўропе».

Тут Ю. Сувораў выкарыстаў артыкул з «МСЭ»—«Гусіцкія войны», шляхам выбаркі паасобных сказаў.

Яшчэ прыклад. Параўнаем артыкулы «Дваровыя людзі» ў слоўніку Ю. Суворава і ў «МСЭ».

«ДВАРОВЫЯ ЛЮДЗІ — катэгорыя прыгонных сялян, пазбаўленых зямельных надзелаў у Расіі з канца XVII ст. да 1861 г. Большасць дваровых людзей жылі ў панскіх дварах амаль у рабскім становішчы».

«ДВОРОВЫЕ ЛЮДИ — категория крепостного населения, существовавшая в России с конца 17 в. до отмены крепостного права (1861). Д.л.—это крепостные крестьяне, лишенные земельных наделов. Большинство Д.л. жило в господских дворах, находилось почти в рабском положении», і г. д.

Як бачым, творчай працы Ю. Суворава тут, шчыра кажучы, не шмат.

Але гэта яшчэ паўбяды— у сэнсе вартасці слоўніка. Гэтыя калькаваныя артыкулы ўсё ж даюць вучням пэўнае ўяўленне пра гістарычныя тэрміны. Куды горшая справа з другім раздзелам— з раздзелам імёнаў.

Мы разумеем, што аўтар кіраваўся пры падрыхтоўцы слоўніка школьнай праграмай, і таму, натуральна, ён не мог уключыць у яго імёны ўсіх, нават самых выдатных дзеячоў культуры, навукі і мастацтва. І ўсё ж...

Неяк дзіўна, што ў слоўніку няма імёнаў М. Ісакоўскага, М. Рыльскага, С. Канёнкава, Л. Украінкі, Р. Амундсена, Ш. Пецёфі, Ш. Руставелі і многіх іншых імёнаў, якія абавязкова павінны быць у шырокім ужытку школьнікаў. Гэта тым больш відавочна, што многія імёны ў слоўніку здаюцца не абавязковымі.

Але найбольшае недаўменне выклікае тое, як прадстаўлены ў слоўніку дзеячы навукі, культуры і мастацтва нашага народа. У ім мы не знаходзім звестак пра народных паэтаў і пісьменнікаў Беларусі П. Броўку, А. Куляшова, К. Крапіву, М. Танка, М. Лынькова, забыты тут К. Чорны, М. Клімковіч (аўтар нашага Дзяржаўнага гімна), П. Глебка, П. Галавач, Я. Маўр, М. Чарот і іншыя выдатныя майстры слова. Няма ў слоўніку імёнаў народных мастакоў рэспублікі З. Азгура, І. Ахрэмчыка і А. Бембеля, народных артыстаў СССР Л. Александроўскай, І. Жыновіча, Л. Ржэцкай, Р. Шырмы. Зусім забыты беларускія савецкія вучоныя, многія партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, героі Вялікай Айчыннай вайны. У прыватнасці, няма ў слоўніку імёнаў Ул. Галубка, А. Чарвякова, В. Харужай, М. Шмырова (Бацькі Міная) і многіх іншых слаўных сыноў і дачок беларускага народа.

А чаго варты некаторыя нататкі! Пра Янку Купалу ў слоўніку сказана: «КУПАЛА Я. (1882—1942 гг.)—беларускі савецкі паэт, аўтар многіх вершаў і паэм». Амаль тое ж самае сказана і пра другога нашага песняра: «КОЛАС Я. (1882—1956 гг»)—беларускі савецкі пісьменнік, аўтар многіх вершаў, паэм («Новая зямля», «Хата рыбака» і інш.), аповесці «Дрыгва», рамана «На ростанях».

Міжволі пачынаеш думаць, што гэтыя звесткі аўтар узяў нават ужо не з «МСЭ», а з адрыўнога календара. Чаго варта адно гэтае: «Хата рыбака»! Аўтару нават няўцям, што паэма Якуба Коласа называецца «Рыбакова хата»!

У слоўніку ўказваюцца толькі прозвішчы, без імён і імён па бацьку. Думаецца, што гэта таксама недагляд аўтара і рэдакцыі (дарэчы, слоўнік выйшаў пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта Акадэміі педагагічных навук СССР, доктара гістарычных навук, прафесара Л. С. Абецадарскага). Не задаволіць школьнікаў і настаўнікаў і скупасць іншых звестак, у прыватнасці, адсутнасць дат нараджэння і смерці вядомых свету людзей.

Акрамя гэтага, слоўнік пазбаўлены спецыфічнай для такіх выданняў лаканічнасці, не мае агульнапрынятых скарачэнняў...

Школьны гістарычны слоўнік павінен быў бы мець трывалую навуковую аснову, якая не дапускае выпадковасцей і відавочных пралікаў.

**С. ШУШКЕВІЧ.**

# ГАВОРЫЦЬ РОДНАЯ ЗЯМЛЯ

Беларускія геаграфічныя назвы — пэўная частка лексічнага багацця роднай мовы. Таму зусім натуральна, што выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла ў свет кнігу Я. Яшкіна «Беларускія геаграфічныя назвы». У працы на аснове сучасных і архіўных матэрыялаў падаюцца мясцовыя беларускія геаграфічныя назвы, якія вызначаюць марфалогію зямлі, гідралагічныя асаблівасці вадаёмаў, раслінныя асацыяцыі і ландшафт. Аўтар упершыню спрабуе сістэматызаваць і абагульніць багаты матэрыял геаграфічных назваў Беларусі, прасачыць іх гісторыю. Укладаючы слоўнік, Я. Яшкін думаў стварыць па магчымасці поўны даведнік апелятыўнай лексікі. Сабраны матэрыял з розных месц Беларусі паказвае, што вялікая колькасць геаграфічных назваў мае агульнабеларускае пашырэнне, частка займае акрэсленыя раёны, а паасобныя ўжываюцца толькі ў пэўных мясцінах.

У кнізе адлюстравана і старабеларуская лексіка. Шырока разглядаецца аўтарам утварэнне геаграфічных назваў ад пэўных прыродных умоў, асаблівасцей мясцовасці, расліннасці. Напрыклад: «навіна́», — у некаторых раёнах так называюць поле на месцы расцяробу або ўзаранай сенажаці. Але ёсць і назвы вёсак: Навіны (Навагрудскі раён), Навінка (Гомельскі раён), урочышчы Навінка (Слаўгарадскі раён).

У слоўніку прыводзіцца мноства змястоўнай і вобразнай беларускай лексікі, якая яшчэ не трапіла ў мастацкую літаратуру і не занатавана ў слоўніках. Вядома, без глыбокага вывучэння гаворак, сінанімікі народнай мовы, без адбору найбольш трапнага і змястоўнага слова нельга ўзбагачаць і літаратурную мову. Напрыклад, звычайна мы ўжо прывыклі да выразу «відаць, як на далоні», маючы на ўвазе віднае з усіх бакоў, адкрытае, высокае месца. А колькі ў адным толькі Слаўгарадскім раёне маем сінонімаў для абазначэння гэтага геаграфічнага аб'екта (відо́цы, лабо́к, лысаго́р, кол, далонь, тычок, вока, званіца, маяк, відо́ліца)!

Ці, напрыклад, да літаратурнага слова «выган» (агароджаная дарога, месца каля населенага пункта, дзе пастух збірае статак, блізкі выпас) занатаваны лексічныя сінонімы: «пята́к», «кружа́ла», «вуго́н», «па́жа», «на́паля», «на́паль», «паста», «паства», «пасіння», «пасе́ба», «пашо́ба», «пашчо́ба», «пашчава́нне», «поле». Літаратурнае «выгін» (кругавы заварот ракі, калена) мае сінонімы: «за́вараць», «захін», «кручо́к», «выгіна́стасць», «лучо́к», «за́хісць», «вы́гіб».

Адна з каштоўнасцей працы Я. Яшкіна ў тым, што ён не толькі называе тую ці іншую геаграфічную назву, акрэслівае яе дакладнае абазначэнне, але па магчымасці шырока паказвае другія сінанімічныя словы.

У слоўніку маецца шмат геаграфічных адзінак, якія па сваім марфалагічным афармленні не супадаюць з літаратурнай будовай, хоць яны абазначаюць адзін і той жа геаграфічны аб'ект.

Кніга Я. Яшкіна «Беларускія геаграфічныя назвы» — яшчэ адно сведчанне пра багацце і невычарпальнасць народнай беларускай лексікі, пра словаўтваральныя сродкі, якія з'яўляюцца паказчыкам разнастайнасці і шматграннасці беларускай лексікі.

Кожная мова, у тым ліку і беларуская, развіваецца, узбагачаецца, папаўняючы свой лексічны склад новымі словамі. Адначасова некаторая частка слоў траціць сваю прадуктыўнасць ва ўжыванні і з цягам часу знікае, забываецца, альбо набывае зусім іншую семантыку, зусім іншую сэнсавую афарбоўку першапачатковага значэння. Гэты працэс вельмі яскрава відаць на прыкладзе геаграфічных назваў, якія найбольш устойліва захоўваюць сваё існаванне ў лексічнай сістэме мовы, з'яўляюцца помнікамі жыцця і побыту чалавека ў мінулым. Вось чаму добра, што аўтар, адначасова з сучаснай дыялектнай лексікай, шырока прыводзіць старабеларускія геаграфічныя назвы, захаваныя ў наш час. Вось некаторыя з іх: весь (населены пункт), ме́ста (частка горада, якая знаходзілася за сцяной замка, горад, мястэчка), дзядзінец (замчышча, дзе быў палац, панскі замак), дзядзіна (дзедаўскае ўладанне, спадчынны маёнтак, пазямельная ўласнасць), плац (зямельны ўчастак у горадзе), пра́га (агароджа з жэрдзя з варотамі ў канцы вёскі, брама, веснічкі).

Праца Я. Яшкіна «Беларускія геаграфічныя назвы» — першая ў нашай літаратуры сістэматызуе вялікі тапанімічны матэрыял, сабраны на тэрыторыі Беларусі. Каштоўнасць яе бясспрэчная: яна будзе карысна і для географа, і для тапаніміста, у той ці іншай ступені можа быць выкарыстана і чытачамі іншых спецыяльнасцей.

Тым не менш у працы ёсць і недахопы. Думаецца, што аўтар зразумеў сваю задачу вельмі шырока і пры адборы матэрыялу для слоўніка змясціў многа назваў, якія не маюць непасрэднага дачынення ні да тапанімікі, ні да гідралогіі. Многія назвы могуць быць аб'яднаны, таму што яны, па сутнасці, абазначаюць адны і тыя ж геаграфічныя аб'екты.

Не заўсёды даюцца дакладныя тлумачэнні значэння геаграфічных назваў, а некаторыя зусім не тлумачацца. Напрыклад, «гарэшнік», «дзел», «гурда́н» і іншыя. Матэрыял для слоўніка збіраўся на ўсёй тэрыторыі Беларусі, гэта значыць, з усіх беларускіх гаворак. Вельмі добра было б таксама паставіць у кожнай геаграфічнай назве націск, таму што чытач не заўсёды можа правільна вымаўляць словы з рознымі дыялектнымі асаблівасцямі. Патрэбна адзначыць, што няма суразмернасці ў адборы матэрыялу па раёнах. Чамусьці ў найбольшай колькасці трапілі на старонкі назвы Слаўгарадскага раёна.

Аднак адзначаныя недахопы ні ў якім разе не зніжаюць каштоўнасці патрэбнай і карыснай працы.

**М. СТЭЛЬМАХ.**

# ЗМЯСТОЎНЫ ПАДРУЧНІК

**Няма патрэбы даказваць, якое вялікае значэнне мае кніга ў жыцці савецкага чалавека, якая пачэсная і адказная роля рэдактара ў выдавецкім працэсе, у выпуску добраякаснай кніжнай прадукцыі. Аб гэтым яскрава сведчыць хаця б апошняя дыскусія, праведзеная на старонках «Литературной газеты». Таму выхад у свет новай працы прафесара М. М. Сікорскага, аўтара шматлікіх даследаванняў у галіне кнігазнаўства і рэдагавання, трэба лічыць вельмі патрэбным і своечасовым.**

**Кніга выдадзена як падручнік для студэнтаў рэдактарскіх факультэтаў паліграфічных інстытутаў і рэдакцыйна-выдавецкіх аддзяленняў факультэтаў журналістыкі універсітэтаў. Аднак яна будзе не ў меншай меры карыснай таксама для практычных работнікаў рэдакцый газет і часопісаў, выдавецтваў і службаў навукова-тэхнічнай інфармацыі.**

**Кніга М. Сікорскага адлюстроўвае сучасны стан кнігазнаўчай навукі. У ёй абагулены шматгадовы вопыт рэдактарскай работы аўтара, выкарыстаны ўсе важнейшыя публікацыі па тэорыі і практыцы рэдагавання, новыя дакументы, якія характарызуюць работу кніжных выдавецтваў.**

**Вызначаючы метадалагічныя асновы рэдагавання ў савецкіх выдавецтвах, аўтар у першую чаргу падкрэслівае яго ідэалагічны, палітычны аспект. Друк, навука, мастацтва і літаратура ва ўмовах сацыялістычнай рэчаіснасці падпарадкаваны вялікай і высакароднай задачы — будаўніцтву камуністычнага грамадства. Рэдагаванне, як працэс, як форма работы і культурна-творчай практыкі, таксама служыць гэтай мэце.**

**У кнізе падрабязна і ўсебакова характарызуецца значэнне рэдактарскай і літаратурнай дзейнасці У. І. Леніна для тэорыі і практыкі савецкага рэдагавання, значэнне рэдактарскага вопыту рускіх пісьменнікаў-класікаў, вопыту М. Горкага і іншых савецкіх пісьменнікаў. Падкрэсліваючы, што рэдагаванне — справа партыйная, аўтар разглядае ў гэтых раздзелах такія важныя пытанні, як папулярнасць выкладу, адносіны рэдактара да працы аўтара, да яго індывідуальнасці, асаблівасці працы над мовай і стылем і г. д.**

**Шмат карыснага і цікавага матэрыялу знойдзе чытач у раздзелах, прысвечаных характарыстыцы выдавецкага працэсу ў цэлым і ролі ў ім рэдактара.**

**Рэдагаванне рукапісу —складаны і шматгранны працэс, які ахоплівае ўвесь комплекс пытанняў, звязаных са зместам і формай твора. Аўтар падручніка вельмі пераканаўча даводзіць, што патрабаванне адзінства формы і зместу — гэта важнейшы крытэрый ацэнкі ЛЮБОГА літаратурнага твора (не толькі мастацкага). Яно ў першую чаргу звязана з адпаведнасцю моўных і стылістычных сродкаў, якія выкарыстоўвае аўтар, тэме і зместу кнігі.**

**Вельмі актуальна гучаць разважанні аўтара кнігі аб умяшанні рэдактара ў рукапіс, аб прынцыповасці рэдактара, аб рэдактарскай этыцы.**

**Кніга М. Сікорскага, як і належыць падручніку, напісана яснай і выразнай мовай, фармулёўкі і вывады ў ёй сціслыя і дакладныя. Кніга мае стройную кампазіцыю, не перагружана ілюстрацыйным матэрыялам, яна — сапраўды змястоўнае і глыбокае даследаванне.**

**М. ЦІКОЦКІ,**
**дацэнт, загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання БДУ імя У. І. Леніна.**

---

М. Сікорскі. «Тэорыя і практыка рэдагавання». На рускай мове. Выдавецтва «Высшая школа», М, 1971.

